# Ад Полацка пачаўся Свет

*Тэкст*
Уладзіміра
Арлова

*Фота*
Сяргея
Плыткевіча

*Мастак*
Зміцер
Герасімовіч





# АД ПОЛАЦКА ПАЧАЎСЯ СВЕТ

*Тэкст*
**Уладзіміра Арлова**
*Фота*
**Сяргея Плыткевіча**
*Мастак*
**Зміцер Герасімовіч**




Мінск 2005

# Слова на дарогу

Дарагія чытачы! Мы запрашаем вас здзейсніць падарожжа ў захапляльную, поўную найцікавейшых падзей і загадак полацкую даўніну.

«Ад Полацка пачаўся свет»... – напісаў аднойчы наш выдатны паэт Рыгор Барадулін. Калі мець на ўвазе свет беларускай гісторыі і культуры, у гэтых радках няма ніякага перабольшання.

Якраз тут, у старажытным горадзе над Дзвіной, пачыналася наша дзяржаўнасць. Не знойдзецца ў краіне іншага горада, які даў бы Беларусі столькі выдатных гістарычных асобаў: дзяржаўных мужоў і асветнікаў, ваяроў і вучоных, дойлідаў і мастакоў. Рагвалод і Рагнеда, Ізяслаў і Усяслаў Чарадзей, Еўфрасіння Полацкая і Лазар Богша, Францішак Скарына і Сімяон Полацкі... Яны, іх сучаснікі і наступнікі стануць героямі гэтай кнігі, разам з якімі вы пройдзеце па тых самых старажытных вуліцах.

Полацку далёка за тысячу гадоў, і, напэўна, кожны з іх пакінуў нам сваю таямніцу. Чаму ў Полацку знаходзяць столькі скарбаў? Як трапіць у полацкія падземныя лабірынты? Дзе шукаць крыж святой Еўфрасінні? Наша кніга прыадчыніць толькі некаторыя з безлічы полацкіх таямніц.

У XXI стагоддзі ў Полацку абавязкова зробяць новыя сенсацыйныя адкрыцці. Такі шанец маеце і вы. А пакуль запрашаем вас туды, дзе глядзяцца ў дзвінскую плынь велічныя саборы, дзе кожны старадаўні дворык ганарыцца сваёй легендай, дзе так утульна пачуваецца муза гісторыі Кліо.



# Бацька гарадоў беларускіх

Такія пацеркі ўпрыгожвалі шыйку старажытнай модніцы

Колькі гадоў Полацку? Летапісы ўпершыню згадваюць яго пад 862 годам. Гэта значыць, што найстаражытнейшаму гораду Беларусі ўжо амаль адзінаццаць з паловай стагоддзяў. Але пытанне не такое простае, як здаецца. Пра Кіеў летапісцы першы раз паведамілі ў сувязі з падзеямі 860 года, аднак сталіца Украіны ўжо даўно ўрачыста адзначыла свае 1500-годдзе.

Рэч у тым, што ўзрост горада можна вылічваць і на аснове вынікаў археалагічных раскопак. Менавіта так і зрабілі нашы паўднёвыя суседзі. Калі б мы ўзялі з іх прыклад, то таксама маглі б святкаваць больш паважныя юбілеі горада, заснаванага крывічамі ў сутоку Дзвіны і Палаты (гэтая рака і дала яму назву).

На полацкім Верхнім замку археолагі знайшлі кераміку, выробленую ў V стагоддзі. Значна раней за 862 год успамінаецца горад і ў старажытных ісландскіх сагах. Таму будзем памятаць, што ў сапраўднасці «бацька гарадоў беларускіх» на некалькі стагоддзяў старэйшы.

Гэтае залатое скроневае кольца насіла ў XII ст. знатная палачанка

Каля скульптурнай кампазіцыі Алеся Шатэрніка, прысвечанай заснавальнікам горада – крывічам, адразу ўспамінаюцца імёны князя Рагвалода, княгіні Рагнеды і яе сына Ізяслава

Зрэзні (наканечнікі) дзідаў полацкіх дружыннікаў

Каменныя сякеры бронзавага веку былі і прыладамі працы і добрай зброяй

Шмат пабачыў на сваім вяку знойдзены ў Полацку меч X ст., адзін з найкаштоўнейшых экспанатаў гарадскога краязнаўчага музея

**Полацкая зямля ў X–XII стст.**






Знойдзеныя археолагамі тыглі старажытнага ювеліра



Гэты залаты пярсцёнак XI ст. трапіў у Полацк з вострава Готланд

Драўляная скульптура XI–XIII стст. з фондаў Полацкага гістарычна-культурнага запаведніка



Тагачасны Полацк стаяў на беразе Палаты прыкладна за кіламетр ад яе сустрэчы з Дзвіной. Ён уяўляў сабой абнесены драўлянымі сценамі, абведзены валам і ровам дзядзінец і неўмацаваны пасад, дзе жылі рамеснікі. Увесь горад меў каля пяці тысяч жыхароў. Сёння на гэтым месцы стаіць стэла з надпісам: «Гарадзішча. Помнік археалогіі IX стагоддзя». Калі прытрымлівацца храналогіі, то якраз тут і можна пачынаць вандроўку ў полацкую мінуўшчыну.

Адсюль, даручыўшы лёс богу Перуну, полацкія дружыны ў 907, 911 і 944 гадах выпраўляліся ў паходы на далёкі Царгорад-Канстанцінопаль, сталіцу Візантыйскай імперыі. Паганскі бог вайны спрыяў продкам. Полацк мы знаходзім у пераліку гарадоў, якім Царгорад плаціў даніну. Сілу галоўнай крывіцкай цвярдыні ведалі і суседзі на поўначы.



Прасліцы, якія круціліся на верацёнах тысячу гадоў таму



Фрагмент славутай «карты-абраза» XIII ст. з нямецкага кляштара Эбсторф. Яе стваральнікі добра ведалі, дзе знаходзіцца Полацк






Каралі з ракавінак кавуры прывезлі на Полацкае гарадзішча з берагоў Індыйскага акіяна



Прыемна было браць у рукі збан з такой ручкай – своеасаблівым абярэгам

У скандынаўскіх сагах дзесяткі разоў згадваецца Палцеск'я – ад старажытных усходнеславянскіх найменняў Полацеск, Полцеск, Полацьск.

Гістарычныя хронікі называюць Полацк сярод гарадоў, дзе кіравалі князі, якія прызнавалі ўладу кіеўскага Алега. Разам з тым улада далёкага Кіева ніколі не была тут трывалай. Горад нашых продкаў ужо на досвітку сваёй гісторыі імкнуўся жыць незалежна. Добрыя ўмовы для гэтага стварала выгоднае геаграфічнае становішча на шляхах, што звязвалі Арабскі халіфат і Хазарыю са Скандынавіяй і славянскім светам.

Ляпны гаршчок – сучаснік першых палачан



Адсюль, з гарадзішча над Палатой, пачыналася летапісная гісторыя горада

У другой палове X стагоддзя ў Полацку княжыў Рагвалод, уладу якога прызнавалі навакольныя землі крывічоў. У летапісах адзначана, нібыта князь прыйшоў «з-за мора», што дае падставы лічыць яго варагам. Знайсці карані імя Рагвалод у скандынаўскіх мовах нескладана. Сустракаецца яно і ў старажытных сагах. Але не менш гісторыкаў лічаць, што полацкі князь, як і яго імя, належалі да славянскага свету (Рагвалод – валадар рога, або мыса.)

Можна, безумоўна, спрачацца, быў першы вядомы з летапісаў полацкі ўладар крывічом або варагам. Але значна важней іншае: у 960–970-я гады Полацк ужо не залежаў ні ад Кіева, ні ад Ноўгарада. Гэта значыць, што якраз тады пачала існаванне першая беларуская дзяржава – Полацкае княства, якое хронікі называюць таксама Полацкай зямлёй.



# Няскораная Рагнеда



Залаты пярсцёнак
XII ст.

У саюзе з Полацкім княствам былі зацікаўленыя і Кіеў, і Ноўгарад, але лепшыя шанцы атрымліваў, вядома, той, хто ўзяў бы шлюб з Рагвалодавай дачкой Рагнедай.

Недзе каля 980 года ў Полацк прыехалі сваты ад кіеўскага князя Яраполка. Рагвалод справядліва расцаніў гэта як прызнанне сілы Полацкай зямлі і вырашыў пайсці на збліжэнне з Кіевам. Па бацькавай волі юная Рагнеда дала кіеўскім гасцям згоду і пачала рыхтавацца да вяселля. Магла б віраваць над Палатой шматгалосая бяседа з хмельным мёдам і заморскім вінам, з песнямі гусляроў і прысягамі на ўзаемную вернасць. Але гісторыя разважыла па-свойму: не віно лілося на Рагнедзіным вяселлі, а кроў...

Неспадзявана ў сталіцу крывіцкай дзяржавы заявіліся новыя сваты – ад ноўгарадскага князя Уладзіміра.

Сваты ноўгарадскага князя Уладзіміра ў Рагвалода. Полацкі ўладар гутарыць з Рагнедай, якая адмовілася стаць жонкаю Уладзіміра. *Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу*

Паход Уладзіміра Святаславіча на Полацк. *Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу*





Рака Палата ў наваколлі Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра





Адной з самых папулярных жаночых аздоб былі шкляныя пацеркі

Старажытным касцяным грэбнем можна расчэсвацца і цяпер



Вось што апавядае пра тыя падзеі летапіс: «Запытаўся ў дачкі Рагвалод: «Ці хочаш за Уладзіміра?» Яна ж адказала: «Не хачу разуці рабыніча, а Яраполка хачу». Паводле звычаю, маладая жонка перад першай шлюбнай ноччу здымала з мужавых ног абутак. «Не хачу разуці» – старажытная форма адмовы сватам. Аднак полацкая князёўна не проста адмовіла, але і нагадала, што маці Уладзіміра была рабыняй, а такі бязродны ёй не трэба.



Сярэднявечныя фібулы служылі продкам для зашпільвання верхняга адзення

Святыя Канстанцін і Алена. Гэты ўнікальны абразок XII ст. з мяккага каменю з пазалотай археолагі знайшлі ў Полацку ў 1967 г.





Беларуская князёўна XII ст. *Рэканструкцыя мастака Алеся Пушкіна*



Манеты са славутага Каз'янкаўскага скарбу, які ў 1972 г. знайшлі полацкія хлапчукі. Агульная вага 8 тысяч срэбных арабскіх манет-дырхемаў складае 20 кг



Манастырская ідылія

Магчыма, якраз у такім скураным гаманцы (кашальку) трымаў грошы старажытны ўладальнік Каз'янкаўскага скарбу



У адказ Уладзімір сабраў вялізнае войска і рушыў на Полацк. З ім ішла варажская дружына, якой князь паабяцаў усіх жанчын і грыўню срэбра з кожнага захопленага двара. Ноўгарадцы напалі раптоўна, і полацкі князь не паспеў сабраць усе свае сілы. Нашы продкі былі разбітыя, а Полацк захоплены і разрабаваны. «І паланілі Рагвалода, – піша летапісец, – і жонку яго і дачку. І прыгадалі Рагнедзе, як назвала князя рабынічам... Пасля ж Уладзімір забіў бацьку яе, а самую ўзяў за жонку. І назвалі Рагнеду Гарыславаю». На вачах у ганарлівай полацкай князёўны правадыр чужынцаў пазбавіў жыцця таксама двух яе братоў і маці, вынішчыў увесь род.



Захоп Полацка войскам князя Уладзіміра. *Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу*



Дзіцячы боцік. Палачане насілі скураны абутак ужо ў Х ст.

Суток Дзвіны і Палаты, якая дала назву гораду. Мясцовыя жыхары сцвярджаюць, што такія вясновыя паводкі здараюцца раз на сорак гадоў



Гульнёй у шахматы захапляліся ў Прыдзвінні з часоў Рагвалода і Рагнеды





Помсцячы за спалены Полацк і забітых бацькоў і братоў, Рагнеда Рагвалодаўна спрабуе забіць мужа.
*Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу*



Можа, якраз у тыя чорныя дні нехта з багатых палачан ці давераны чалавек самога князя Рагвалода закапаў у зямлю скарб, што ў 1972 годзе знайшлі на свежаўзараным полі хлапчукі з прыгараднай полацкай вёскі Каз'янкі – 7650 срэбных арабскіх манет агульнай вагой 20 кг. (Цяпер ён захоўваецца ў Полацкім краязнаўчым музеі). З тых далёкіх часоў Беларусь, а на беларускай зямлі Полаччына, па колькасці знойдзеных скарбаў трымае ці не першае месца ў Еўропе. У горадзе і вакол яго ўжо адкрытыя болей за трыццаць старажытных скарбаў, і можна толькі здагадвацца, колькі яшчэ тоіцца проста пад нашымі нагамі. Вось толькі прычына ў гэтага лідарства сумная: хаваць багацце змушалі продкаў вогненныя віхуры бясконцых войнаў.



Уладзімір Святаславіч хоча пакараць Рагнеду смерцю, але на абарону маці ўстае князевіч Ізяслаў.
*Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу*



Кіеўскі князь Уладзімір раіцца з баярамі пра лёс Рагнеды і Ізяслава.
*Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу*



Так выглядала дзяўчына з заможнай полацкай сям'і XII ст.
*Рэканструкцыя мастака Алеся Пушкіна*


Фрагмент старажытнай цэглы-плінфы са знакамі тагачасных майстроў


Шкляныя свісцёлкі полацкай дзятвы пракаветных часоў



Усё жыццё Рагнеда не магла забыць свайго «вяселля». Аднойчы, ужо калі Уладзімір Святаславіч быў кіеўскім князем, яна наважылася паквітацца за родных і ўсю паняволеную зямлю. Але князь прадухіліў удар мяча. На абарону маці, якую Уладзімір хацеў пакараць смерцю, стаў са зброяй у руках юны князевіч Ізяслаў.

Непакорлівую палачанку разам з сынам выслалі на бацькаўшчыну. Князь Уладзімір загадаў пабудаваць для іх горад, які назваў сынавым імем – Ізяслаўль (цяперашняе Заслаўе пад Мінскам). Там у 1000 г. і закончыўся зямны шлях вялікай княгіні Рагнеды. У той час Ізяслаў ужо княжыў у Полацку, які аднаўляў сваю незалежнасць. Дзякуючы Рагнедзе захавалася княская дынастыя Рагвалодавічаў, прадстаўнікі якой кіравалі полацкай зямлёй у X–XIII стагоддзях.

А цяпер давайце ўявім, што ў тую ноч, калі Рагнеда ўзяла ў рукі меч, ёй не хапіла б мужнасці. У выніку яна з сынам не вярнулася б на радзіму. Ізяслаў не стаў бы полацкім князем, і княства не адваявала б сабе незалежнасць... У такім разе ці была б сёння на карце свету краіна з назваю Беларусь?


Продкі карысталіся вось такімі зграбнымі шпількамі




Ліцейная форма полацкага ювеліра XI ст.

# Час Чарадзея



Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу, якая, на думку некаторых гісторыкаў, адлюстроўвае асвячэнне Сафійскага сабора ў Полацку.

Сын Рагнеды Ізяслаў застаўся ў гісторыі як чалавек набожны і вялікі кніжнік. Ён увёў у Полацку пісьменства і навучанне грамаце, стаў нашым першым асветнікам. За часамі Ізяслава Полацкая зямля зрабілася часткаю хрысціянскага свету. Новая вера была прынятая без гвалту і, магчыма, прыйшла сюды непасрэдна з Візантыі.

Адрозна ад бацькі, занятага мірнымі клопатамі, князь Брачыслаў Ізяславіч, які ўладарыў у 1003–1044 гадах, здзейсніў некалькі пераможных паходаў, у тым ліку на Ноўгарад, і значна пашырыў межы княства. Кіеўскі князь Яраслаў Мудры вымушаны быў прызнаць незалежнасць Полацкай зямлі і нават аддаў Брачыславу гарады Віцебск і Усвят, якія яшчэ больш умацавалі пазіцыі Полацка на гандлёвым шляху «з варагаў у грэкі». Але найвышэйшага ўздыму Полацк і наша першая дзяржава дасягнулі пры наступным полацкім уладары – Усяславе Брачыславічы, празваным Чарадзеем.

Таямніца ахутвае ўжо яго прыход на свет, што адбыўся найверагодней у 1029 годзе. Летапісы паведамляюць, нібыта найславуцейшы з полацкіх князёў нарадзіўся «ад валхвавання», гэта значыць пры ўдзеле паганскіх чараўнікоў-«валхвоў». Сучаснікі і нашчадкі верылі, што неба надзяліла Усяслава вешчай душою і здольнасцю ператварацца ў ваўка ці сокала. Энергія і розум полацкага князя, а таксама яго поўнае прыгод жыццё натхнялі гусляроў і складальнікаў былін. Пра Усяслава Брачыславіча як пра выдатнага дзяржаўнага мужа і палкаводца натхнёна пісаў аўтар «Слова пра паход Ігаравы».



Пачатак княжання Усяслава Брачыславіча ў Полацку. *Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу.*



Гэты каменны крыж X–XIII стст., знойдзены ў ваколіцах Полацка, пазначаў адзін з волакаў на гандлёвым шляху «з варагаў у грэкі».

← Макет помніка князю Усяславу Чарадзею для Полацка. *Скульптар Алесь Шатэрнік. 2005 г.*

**Межы Полацкай дзяржавы пры Усяславе Чарадзеі**





Бітва на рацэ Нямізе. Насуперак паведамленню кіеўскага летапісца, пераможцам у той лютай сечы, хоць і дарагой цаной, стаў Усяслаў, які змусіў кіеўскіх князёў вывесці войскі з Полацкай дзяржавы.
*Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу*



Князь Усяслаў Чарадзей са старэйшымі сынамі перапраўляецца цераз Дняпро. Праз некалькі хвілін кіеўскія князі, парушыўшы клятву на крыжы, захопяць полацкага ўладара ў палон.
*Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу*



Сярэднявечная пячатка з надпісам «Князь Усяслаў»

У час уладарання Усяслава (1044 –1101) на стромкім беразе Дзвіны падняўся грандыёзны шматкупальны Сафійскі сабор, трэці такі храм на ўсходнеславянскіх землях. Сімвалізуючы роўнасць крывіцкай сталіцы з Кіевам і Ноўгарадам, Сафія ўвасабляла незалежнасць Полацкага княства. Сабор быў сэрцам старажытнабеларускай дзяржавы. Там не толькі маліліся, але і прымалі замежных паслоў, абвяшчалі вайну і падпісвалі мір, захоўвалі дзяржаўны скарб і заснаваную князем Ізяславам бібліятэку. Там складаўся Полацкі летапіс, сляды якога, на вялікі жаль, згубіліся ў XVIII стагоддзі. Каля сцен сабора палачане збіраліся на вечавыя сходы, дзе вырашаліся галоўныя дзяржаўныя справы.

Так выглядаў Полацк у XII–XIII стст. *Рэканструкцыя Віктара Сташчанюка*

Паўстанне 1068 г. у Кіеве.
*Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу*

Кіяне вызваляюць Усяслава Чарадзея з вязніцы.
*Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу*

Усяслаў Чарадзей на вялікакняжацкім кіеўскім пасадзе. «Слова пра паход Ігаравы» сцвярджае, што наш славуты князь чуў у Кіеве званы святой Сафіі Полацкай. *Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу*

Пражыўшы два першыя дзесяцігоддзі княжання ў міры з суседзямі, Усяслаў перайшоў да, кажучы сучаснай мовай, актыўнай знешняй палітыкі. У 1066 годзе ён зрабіў імклівы паход на Ноўгарад і вярнуўся пераможцам, прывёзшы з сабой сярод астатняй здабычы знятыя з ноўгарадскай Сафіі званы. Праз некалькі месяцаў полацкая дружына здзейсніла яшчэ адзін паспяховы паход – на Новагародак (цяперашні Навагрудак), які тады належаў Кіеву.

Гэтыя перамогі ўстрывожылі трох сыноў Яраслава Мудрага. Бітва Усяслава з варожым войскам адбылася ў 1067 годзе паблізу Менска на рацэ Нямізе. «І была сеча жорсткая, і шмат вояроў палегла», – занатаваў летапісец. Хоць і дарагой цаной, але Чарадзей абараніў дзяржаву, змусіўшы Яраславічаў адвесці войскі. Кіеўскія князі, не здолеўшы дасягнуць свайго ў адкрытым баі, неўзабаве запрасілі Усяслава на перамовы. Парушыўшы клятву на крыжы, яны захапілі Чарадзея разам са старэйшымі сынамі ў палон і кінулі ў кіеўскую вязніцу. Але ў 1068 годзе ў Кіеве пачалося паўстанне, удзельнікі якога вызвалілі полацкага ўладара і абвясцілі яго вялікім князем кіеўскім.

Вось такой мог бачыць Сафію Полацкую Усяслаў Чарадзей





Фрагмент полацкай фрэскі XII ст. са старажытным надпісам-графіці

Праз сем месяцаў Усяслаў вярнуўся на радзіму і пасля зацятага змагання цалкам вызваліў Полацкае княства. У 1078 годзе продкі атрымалі надзвычай важную перамогу над злучанымі сіламі паўднёвых княстваў, ноўгарадцаў і полаўцаў, якія вёў на нашу зямлю Уладзімір Манамах.

Полацкае княства было тыповай для сваёй эпохі еўрапейскай раннефеадальнай дзяржавай. Сваёй тэрыторыяй яно адпавядала такім тагачасным краінам, як герцагства Баварскае або каралеўства Партугальскае. Апрача сталіцы, Полацкая зямля налічвала яшчэ паўтара дзесятка гарадоў: Віцебск, Менск, Орша, Заслаўе, Барысаў, Браслаў, Лукамль, Лагойск… Улада Усяслава Чарадзея і яго наступнікаў пашыралася на ніжняе Падзвінне да самага Балтыйскага мора. Гэта значыць, што Полацкае княства было марской дзяржавай. Усе спробы далучыць яго да Кіеўскай Русі нязменна заканчваліся правалам. Наша першая дзяржава заставалася незалежнай і адыгрывала важную ролю ва Усходняй Еўропе. Камусьці можа здавацца, што тут усё адно былі «еўрапейскія задворкі», але, напрыклад, візантыйскія базілеўсы са знакамітага дому Камнінаў так не лічылі. Захаваліся сведчанні, што дачка Усяслава Чарадзея стала жонкаю імператара Аляксея Камніна. Княгіня Сафія дачка яшчэ аднаго Рагвалодавіча – князя менскага і полацкага, Валадара – у 1157 годзе ўзяла шлюб з каралём Даніі Вальдэмарам I. Яе дзеці сядзелі на дацкім, шведскім і французскім тронах.



Адзін з шаснаццаці слупоў, што падтрымлівалі скляпенні Сафійскага сабора



Аўтографы будаўнікоў Сафіі на камені-вапняку, знойдзеным рэстаўратарамі праз дзевяць стагоддзяў



Мастак-рэстаўратар Уладзімір Ракіцкі аднавіў фрэскавую размалёўку барабана Спасаўскай царквы

Аднак гісторыя – гэта не толькі імператары, князі ды іх акружэнне. Якім жа было ў тыя часы жыццё простых людзей?

Палачане жылі ў хатах з хваёвага (радзей яловага) бярвення. Плошчай тыя будынкі былі трохі меншыя за нашы цяперашнія кватэры – ад 12 да 25 квадратных метраў. Дамы стаялі вельмі шчыльна і мелі маленькія падворкі. Вуліцы масціліся бёрнамі і драўлянымі плахамі. Сям-там трапляліся лазні: продкі таксама ўмелі цаніць асалоду ад распаранага бярозавага ці дубовага веніка.

Кожная эпоха пакідае на зямлі, дзе жыве чалавек, свой слой, які археолагі называюць культурным. Гэты своеасаблівы летапіс нярэдка не менш цікавы за пісаную хроніку. Таўшчыня такога «фаліянту» на полацкім Верхнім замку дасягае шасці метраў.

Археолагі падлічылі, што ў горадзе жылі майстры больш чым шасцідзесяці спецыяльнасцей: ганчары, бондары, шаўцы, краўцы, замочнікі, ткачы, меднікі, гарбары-кажамякі…

Ладзейнікі будавалі ладдзі і стругі. Жарнасекі выштукоўвалі жорны, вастрыльныя брускі, каменныя крыжыкі. Касцярэзы рабілі грабяні, накладкі да калчаноў-тулаў, гузікі, фігуркі для шахматаў, папулярных і ў знаці, і ў простых гараджан. Ювелірныя майстэрні забяспечвалі жанчын упрыгожваннямі – бранзалетамі, пярсцёнкамі, скроневымі кольцамі. Жонкі і дочкі рамеснікаў любілі насіць сінія, блакітныя, зялёныя, чорныя бранзалеты са шкла. Шыі палачанак часта аздаблялі бурштына-

Арнаментаваная касцяная ручка нажа X ст.





Гэтыя вітыя каменныя сходы вядуць на хоры, да аргана Полацкай Сафіі



Праз тысячу гадоў пасля Усяслава Чарадзея сваю эмблему высекла на прыдзвінскім камяні Таварыства вольных літаратараў Беларусі

выя пацеркі, што, як верылі, спрыяла здароўю і дапамагала ад бяссоння.

З асаблівай павагай і князь з дружынай, і просты люд ставіліся да збройнікаў. Мячы (кошт аднаго быў прыблізна роўны кошту каня) мелі такую вастрыню, што імі галіліся. У зробленай броннікамі кальчузе колькасць жалезных кольцаў часам даходзіла да 60 тысяч. Ішла слава пра полацкіх майстроў-лучнікаў. На блізкай адлегласці ад стралы са сталёвым зрэзнем не ратавалі ні шчыты, ні кальчугі, ні панцыр. Нават праляцеўшы сотню метраў, такая страла лёгка прабівала дубовую дошку таўшчынёй з палец.



Касцяныя тронкі нажоў пачатку X ст.

Лук даставаў крокаў на 300–350. З ім паляўнічыя смела хадзілі на буйнога звера, а мімаходзь маглі «зрэзаць» качку або чаплю. Паляванне служыла гараджанам не забаваю, а было важнай часткай гаспадаркі. Яно падзялялася на мясное (на зуброў, ласёў, аленяў, мядзведзяў, лебядзяў, гусей, цецерукоў) і футравае (на баброў, лісіц, вавёрак, ваўкоў, собаляў, куніц). Пра багацце полацкіх лясоў у часы князя Усяслава можна меркаваць па тым, што яшчэ ў XVI стагоддзі собалі на гарадскім рынку прадаваліся вязкамі па 40 штук, а гарнастаі – па 250.

Частка жыхароў Полацка кармілася з рыбарства. Рыбу лавілі нератам, брадніком, на кручок, білі восцямі. У прыгарадных лясах гараджане ставілі борці. З калоды ў добры год бралі некалькі карчагаў мёду. Галоўнымі канкурэнтамі пчаляроў былі мядзведзі, якія ведалі борці не горш, чым гаспадары.

Старажытныя палачане аралі вакол горада зямлю, сеялі жыта, ячмень, пшаніцу, авёс, грэчку, гарох, лён. На гародах тысячу гадоў таму раслі капуста і рэпа, боб і мак, цыбуля, часнок, кроп. Продкам вядомы быў смак салёнага агурка і расолу. Увесну ў Полацку зацвіталі яблыневыя і вішнёвыя сады. У хлеўчыках рохкалі парсючкі, білі ў драўляныя даёнкі вострыя струменьчыкі сырадою, бляялі авечкі і мэкалі козы.

Вітая шыйная грыўня з бронзы, нож, рыбалоўны кручок, нажніцы і крэсіва. *Археалагічныя знаходкі часоў Полацкага княства*



Апрача хлеба, розных каш і мясных страваў, на стол, найперш у святочныя дні, падаваліся ласункі: мядовыя каўрыжкі, пернікі з макам, пірагі з самай рознай начынкай – ад заечыны да мядзведзіны. Па застоліцы хадзілі ёмістыя чары варанага перабрадзілага мёду. Пілі таксама мёд, настоены на перцы, прывезенае з поўдня вінаграднае віно, ячменнае піва і квас. Сёмую чару хмельнага зелля называлі «богагнявіцельнай», бо лічылася, што пасля яе чалавекам завалодваюць нячысцікі.



Сафія Полацкая часоў князя Усяслава. *Малюнак Віктара Сташчанюка*



Напэўна, старажытны ганчар быў чалавекам самалюбівым і хацеў пакінуць сваё імя нашчадкам

Горад любіў і ўмеў гандляваць. Кіеўскія купцы прывозілі ў Полацк шкляныя вырабы, белы гліняны посуд з зялёнай палівай, а таксама чарнаморскія тавары: віно, аліўкавы алей, амфары. Багатыя гараджане спыняліся каля прылаўкаў з візантыйскімі квяцістымі тканінамі, з усходнімі прыправамі і тонкімі шклянымі келіхамі. Чулася па рынку і нямецкая гаворка. З Заходняй Еўропы рамеснікі атрымлівалі волава, медзь і цыну. Першае месца ў полацкім імпарце некалькі стагоддзяў займала соль, у экспарце – воск і футра.

Акрамя дачкі, дзякуючы якой у жылах візантыйскіх імператараў бегла крывіцкая кроў, Чарадзей меў шасцёра сыноў: Барыса-Рагвалода, Давыда, Глеба, Рамана, Святаслава-Георгія і Расціслава. (Падвойныя імёны – тагачасная полацкая традыцыя: адно было спрадвечна славянскае, другое, пераважна грэчаскае, давалі пасля хрышчэння).

Пра князя Барыса Усяславіча сённяшнім палачанам і турыстам нагадвае чырванаваты валун побач з Сафійскім саборам. На ім паабапал шасціканцовага крыжа можна разабраць высечаны надпіс: «ХС. Ніка. Гі (Госпадзі) помозі рабю своему Борісу». Не ўсе ўжо і памятаюць, што з'явіўся валун на Верхнім замку ўсяго пару дзесяткаў гадоў таму, а датуль амаль дзевяць стагоддзяў ляжаў у рэчышчы Дзвіны паблізу сучаснага Наваполацка. Гэты Барысаў камень – не адзіны, у розных месцах былога Полацкага княства захавалася яшчэ некалькі. Адны гісторыкі мяркуюць, што да прыняцця хрысціянства камяні былі паганскімі святынямі і, высякаючы на іх крыжы, полацкі валадар змагаўся супроць старой веры, а адначасова і ўвекавечваў сваё імя. Другія лічаць, што гэтыя валуны – напамін пра паходы полацкага князя, які прасіў ва Усявышняга перамогі над ворагамі. А мы можам пакласці на крыж, высечаны далёкімі продкамі, руку і загадаць запаветнае жаданне.



Крыжык-энкалпіён XII–XIII стст. Бронза і срэбра. У такіх крыжыках захоўваліся часцінкі святых мошчаў



«Барысаў камень» на Верхнім замку ў Полацку. Калісьці продкі пакінулі на гэтым валуне свой зварот да Бога. Сёння тут таксама можа папрасіць дапамогі ва Усявышняга



Найпадобнейшая Еўфрасіння, ігумення полацкая, нябесная заступніца Беларусі

# Нібы прамень сонечны

У гісторыю ўвайшло шмат Усяслававых нашчадкаў, але найбольшую славу пасля Чарадзея прынеслі Полацку не князі-ваяры. Зрабіць гэта лёс наканаваў яго ўнучцы Еўфрасінні. Яна стала нябеснай апякункаю Беларусі, а ў зямным жыцці была адной з самых адукаваных жанчын таго часу ва ўсёй Еўропе. Выдатную асветніцу аўтар яе «Жыція» параўноўваў з арлом, што, «лунаючы ў небе, праляцеў ад захаду да ўсходу і, нібы прамень сонечны, прасвятліў зямлю Полацкую». Але пра ўсё па парадку.

Дзяўчынцы, якая нарадзілася каля 1104 года ў Полацку, далі старажытнае імя Прадслава. Яе бацькам быў малодшы сын Усяслава Чарадзея Святаслаў-Георгі.

Унучка славутага крывіцкага князя з ранніх гадоў уражвала ўсіх прыгажосцю і здольнасцю да навукі. У тым часе дзяцінства было кароткае: дванаццацігадовыя князёўны часта ішлі пад вянец. Такая доля чакала і Прадславу, але яна абрала іншы шлях. Пад імем Еўфрасінні князёўна таемна ад бацькоў прыняла манаскі пострыг, каб прысвяціць жыццё духоўнаму ўдасканаленню.

За манастырскімі сценамі яна змагла цалкам аддацца кнігам. Апрача Біблії, юная Хрыстова нявеста чытала творы рымскіх і візантыйскіх багасловаў, славянскіх асветнікаў Кірылы і Мяфодзія, вывучала Нестараву «Аповесць мінулых гадоў» і візантыйскія хронікі сусветнай гісторыі. Да рук Еўфрасінні траплялі філасофскія трактаты, у тым ліку, як мяркуюць гісторыкі, і працы Арыстоцеля і Платона.

Цягам стагоддзяў заснаваны Еўфрасінняю Спасаўскі (Спаса-Еўфрасіннеўскі) манастыр перажываў і ўзвышэнні і занепад





Унікальныя полацкія фрэскі XII ст. уражваюць багаццем фарбаў, псіхалагічнай глыбінёй і эмацыянальнасцю. Маці Божая і Хрыстос Пантакратар (Уладар Сусвету).
*Дэталь фрэскавай размалёўкі XII ст. з малельні Еўфрасінні ў Спасаўскай царкве*



Найстаражытнейшая выява царквы Спаса (Спаса-Еўфрасінneўскай) з фрэскі XII ст., адкрытай у гэтым храме Уладзімірам Ракіцкім у 2000 г.

Пасяліўшыся ў келлі Сафійскага сабора, князёўна, як паведамляе «Жыціе», «пачала кнігі пісаць сваімі рукамі». Праца перапісчыка была настолькі фізічна цяжкая, што ёю займаліся толькі мужчыны. Разам з перапісваннем царкоўных кніг, хронік, папулярных тады зборнікаў афарызмаў пяро асветніцы магло выводзіць радкі Полацкага летапісу. Еўфрасіння пісала і ўласныя творы – малітвы, павучанні, а таксама перакладала з грэчаскай і лацінскай моў. Гледзячы ў хвіліны адпачынку на шырокую і нястрымную Дзвіну, яна марыла пра час, калі перапісваннем кніг будуць займацца ў Полацку не адзінкі, а дзесяткі пісьменных людзей. Мары здзейсніліся, калі Еўфрасіння заснавала жаночы, а потым мужчынскі манастыры.

Жаночы Спасаўскі, першай ігуменняй якога была сама Еўфрасіння, без вялікага клопату знойдзе ў Полацку любы падарожнік. (Туды вядзе вуліца, названая імем Еўфрасінні). Ад мужчынскага манастыра Багародзіцы аніякіх слядоў не засталося, аднак гісторыкі мяркуюць, што ён знаходзіўся прыкладна на тым месцы, дзе цяпер гарадскія Ксаверыйскія могілкі. Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр на працягу стагоддзяў перажываў і ўзвышэнні і заняпад. Мала хто ведае, што ад 1579 да 1820 года ён належаў ордэну езуітаў. У савецкі час манастыр двойчы зачынялі, а яго аднаўленне адбылося ў 1990-м.



Свае граматы Еўфрасіння Полацкая змацоўвала вось гэтай пячаткаю



Рукапіснае Полацкае Евангелле XII ст.



Святая Еўфрасіння.
*Абраз з полацкага Богаяўленскага сабора*



Сёння Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр стаў месцам паломніцтва вернікаў з розных краін



Макет-рэканструкцыя полацкага Спасаўскага храма, змураванага старажытнымі майстрамі ўсяго за трыццаць тыдняў

Еўфрасіння стварыла ў манастырах адмысловыя майстэрні па перапісванні кніг – скрыпторыумы, а таксама іканапісную майстэрню. У адкрытых ігуменняй школах юныя палачане апрача царкоўнаславянскай, вучылі грэчаскую і лацінскую мовы, атрымлівалі звесткі з гісторыі, прыродазнаўства і медыцыны. З найбольш здольнымі праводзіліся заняткі па паэтыцы і рыторыцы – навуцы красамоўства. Сярод тых, хто атрымліваў выдатныя ўрокі красамоўства ад самой ігуменні, напэўна, пашчасціла быць і аўтару «Жыція» Еўфрасінні.

«Жыццяпіс Еўфрасінні Полацкай». Рукапіс XVI ст.





У 2000 г. Еўфрасіння вярнулася ў родны горад у бронзе. Аўтар помніка скульптар Ігар Голубеў



Сучасны выгляд Спасаўскай царквы. Збудаваная дойлідам Іаанам у сярэдзіне XII ст., яна стала вяршыняй полацкай архітэктурнай школы



Вобраз Крыжа Святой Еўфрасінні Полацкай, узноўлены ў 1992–1997 гг. мастаком-ювелірам Міколам Кузьмічом на аснове апісанняў, малюнкаў і фотаздымкаў арыгінала. Паводле задумы Еўфрасінні старажытны крыж павінен быў вечна «жыватварыць» душы палачан



Паглядзіце ў глыбокія праніклівыя вочы на гэтай фрэсцы XII ст. Відаць, нездарма некаторыя даследчыкі лічаць яе верагодным партрэтам ігуменні Еўфрасінні

Дзякуючы яму мы таксама маем магчымасць ацаніць літаратурны і прамоўніцкі талент асветніцы: «Вось сабрала вас, нібы птушанятаў, пад крылы свае і на пашы, нібы авечак, каб вы пасвіліся ў Божых наказах. А я з лёгкім сэрцам стараюся вучыць вас і дождж вучэння на вас праліваю! Але ж нівы вашыя стаяць, не ўзыходзячы»...

Нястомна збіраючы вакол сябе таленты, Еўфрасіння стала нашай першай мецэнаткай. На яе замову полацкі дойлід Іаан у 50-х гадах XII стагоддзя ўсяго за трыццаць тыдняў збудаваў царкву Спаса – найвыдатнейшы помнік полацкай архітэктурнай школы. Гэты храм, які шчасліва захаваўся да нашых дзён, хочацца параўнаць з лілеяй у цёплай затоцы блізкай Палаты, з казачнай птушкай на зялёным поплаве, з журботна-светлай мелодыяй...

Наватарскія ідэі Іаана, натхняльніцай і фундатаркай якога была князёўна-ігумення, пашыраліся ў суседніх княствах. Напрыканцы XII стагоддзя полацкія дойліды ўзвялі ў Смаленску сабор Архангела Міхаіла і гэтым заклалі асновы смаленскай архітэктурнай школы. Прыкладна ў той самы час палачане пабудавалі ў Ноўгарадзе славутую царкву Пятра і Паўла на Сінічай гары.



Келля Еўфрасінні Полацкай у сцяне Спасаўскага храма. *Фота пачатку XX ст.*

Еўфрасіння была замоўцай унікальных фрэсак Спасаўскай царквы, якія і сёння ўражваюць неверагодным багаццем фарбаў, псіхалагічнай глыбінёй і эмацыянальнасцю. Асабліва хвалююць жаночыя вобразы і сярод іх – твар святой на паўночна-заходнім гранёным слупе, што падтрымлівае хоры. Дапытлівы позірк глыбокіх вачэй выпрабоўвае, выклікае на роздум пра годнасць чалавека і сэнс яго існавання. Нядзіва, што гэтую фрэску называюць верагодным партрэтам самой асветніцы.

У 1161 годзе полацкі майстар-ювелір Лазар Богша стварыў для храма Спаса знакаміты Крыж, шэдэўр нашага старажытнага мастацтва, які стаў нацыянальнай святыняй Беларусі. Лёс Крыжа Еўфрасінні Полацкай варты гістарычнага дэтэктыўнага рамана. Яго шмат разоў вывозілі, вярталі, выкрадалі і замуроўвалі ў сценах Сафійскага сабора...



Вытанчаны срэбны абразок з барэльефам Еўфрасінні стварыў да 800-годдзя завяршэння зямнога шляху нашай нябеснай заступніцы вядомы венгерскі скульптар Пол Вінчэ

Апошні раз святыня знікла ўлетку ваеннага 1941 года і, найверагодней, трапіла ў расейскія музейныя сховішчы. Ужо ў нашы дні вобраз Крыжа святой Еўфрасінні на аснове малюнкаў, фотаздымкаў і апісанняў арыгінала ўзнавіў мастак-ювелір Мікола Кузьміч. Ягоны твор вы можаце ўбачыць у Спасаўскім манастыры па нядзелях і на хрысціянскія святы.

На схіле жыцця Еўфрасіння здзейсніла паломніцтва ў Святую Зямлю. Там у 1167 годзе і завяршыўся яе зямны шлях. Асветніцу пахавалі ў Ерусаліме, але праз дваццаць гадоў перанеслі мошчы ў Кіева-Пячорскую лаўру. Толькі ў 1910-м яны былі ўрачыста дастаўленыя ў заснаваны выдатнай палачанкаю манастыр.

Еўфрасіння стала першай усходнеславянскай жанчынай, кананізаванай праваслаўнай царквой. Паводле даўняй традыцыі полацкую князёўну-ігуменню прызнае святой і каталіцкая царква. Дзень памяці св. Еўфрасінні Полацкай адзначаецца 5 чэрвеня (новага стылю). Тады ў Полацк сыходзяцца і з'язджаюцца тысячы паломнікаў з Беларусі і іншых краін.

Але прыйсці да Еўфрасінні можна ў любы дзень. Пакланіцеся яе мошчам, паглядзіце ў праніклівыя вочы на фрэсцы. Падыміцеся ў келлю святой, дзе так узнёсла думаецца пра вечнасць хараства, пра чалавечае прызначэнне на гэтай зямлі.



Рака з мошчамі святой Еўфрасінні ў Спасаўскай царкве. Сучасны выгляд

У 1910 г. адбылося ўрачыстае перанясенне мошчаў Еўфрасінні з Кіева-Пячорскай лаўры ў Полацк. Хрэсны ход са святыняй выходзіць з Мікалаеўскага сабора ў Спасаўскі манастыр





Найстаражытнейшая каляровая выява «Пагоні». Кодэкс Бергомера. Пачатак XV ст.

# У новай дзяржаве

Пры канцы XII стагоддзя ў Полацку ўладарыў князь Валодша (Уладзімір). У той самы час у вусці Дзвіны высадзіліся нямецкія рыцары, святары і купцы. У 1201 годзе яны заснавалі горад Рыгу, ператварыўшы яго ў моцную фартэцу. Неўзабаве там быў створаны ордэн мечаносцаў, назва якога паходзіла ад выявы чырвонага мяча і крыжа над ім на белых рыцарскіх плашчах.

Населенае балтамі і вугра-фінскімі плямёнамі Ніжняе Падзвінне задоўга да з'яўлення немцаў знаходзілася пад уладай Полацка і плаціла яму даніну. Прасоўванне крыжакоў на ўсход сутыкнулася з дзяржаўнымі інтарэсамі Полацкай зямлі. Усе трыццаць гадоў свайго княжання (1186–1216) Валодша, якога нямецкія хронікі называюць «каралём Вальдэмарам», вёў зацятую барацьбу з рыцарамі і не дазволіў ім ступіць на крывіцкія землі. Князь нечакана памёр якраз напярэдадні новага вялікага паходу на Рыгу – найверагодней, быў атручаны крыжацкімі агентамі.





Пячатка места Полацкага 1404 г.

Стрымліваць далейшы націск крыжакоў Полацку дапамог саюз з Ноўгарадам. У 1239 годзе ноўгарадскі князь Аляксандр Яраславіч павянчаўся з дачкой полацкага князя Брачыслава Аляксандрай. Праз год полацкая дружына дапамагла ноўгарадцам здабыць перамогу над шведскімі рыцарамі на Няве, пасля чаго Аляксандра і пачалі называць Неўскім. У той «сечы вялікай» здабыў славу палачанін Якаў. Летапіс паведамляе, што, узброены адным мячом, ён бліскуча вытрымаў бой з некалькімі дзесяткамі рыцараў. Полацкія ратнікі складалі разам з віцьблянамі траціну ўсяго славянскага войска і ў Лядовым пабоішчы на Чудскім возеры.

Адплыццё крыжакоў у паход. *Сярэднявечная гравюра*







Пячатка ордэна мечаносцаў



Бітва ноўгарадскага князя Аляксандра Яраславіча са шведамі на Няве ў 1240 г. Ваяр з узнятым над галавой мячом – герой той сечы Якаў Палачанін. *Сярэднявечная гравюра*



У Лядовым пабоішчы на Чудскім возеры полацкія ратнікі разам з віцьблянамі складалі трацiну славянскага войска. *Мініяцюра XV ст.*

Тады ж беларускія землі сутыкнуліся з новым ворагам – мангола-татарамі. Да з'яўлення на нашых межах усходнім заваёўнікам удалося падпарадкаваць сабе велізарныя абшары – ад Кітая да Усходняй Еўропы. Але, адрозна ад рускіх земляў, беларускія княствы захавалі сваю незалежнасць і не зведалі цяжкога татарскага прыгнёту. Гэтаму спрыяла ўзнікненне ў сярэдзіне XIII стагоддзя новай еўрапейскай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ). Яго стваральным ядром сталі прынёманскія беларускія землі, а першай сталіцай – Навагародак (Навагрудак). Перад двайной пагрозай – татараў з усходу і нямецкіх рыцараў з захаду – у склад новай дзяржавы паступова і добраахвотна ўваходзілі іншыя беларускія княствы.

Полацкая зямля мірным шляхам і на ўмовах значнай самастойнасці стала часткай Вялікага Княства ў 1307 годзе. Палачане неаднаразова атрымлівалі ад вялікіх князёў пісьмовыя гарантыі «не рухаць старыны, не ўводзіць навіны», што азначала захаванне ранейшых звычаяў і традыцый кіравання. Напачатку становішча Полацкай зямлі ў ВКЛ нагадвала палітычны альянс. Дамова, якую Вялікае Княства падпісала з Лівонскім ордэнам у 1338 годзе, называе полацкага князя, як і гаспадара ўсёй дзяржавы, каралём: «Гэты мір заключаны са згоды магістра і рады Рыжскай, і са згоды караля Літвы, і са згоды епіскапа полацкага і караля полацкага». Тры стагоддзі Полацк заставаўся найбуйнейшым горадам ВКЛ.



Баявы шалом «гаршковага» тыпу

Цікава, што «Пагоня», якая стала гербам дзяржавы ў канцы XIII стагоддзя, насамрэч больш старажытная і паходзіць з Полацка. Яе выява змяшчалася на пячатках Аляксандра Неўскага, што атрымаў даўнейшы крывіцкі герб у якасці своеасаблівага пасагу ад жонкі – полацкай князёўны. Вядомы расейскі гісторык В. Тацішчаў, які карыстаўся страчаным пазней Полацкім летапісам, сцвярджаў, што «гербам Беларусі спрадвеку быў вершнік з мячом».



«Пагоня» на княскай пячатцы Аляксандра Неўскага. Старажытны крывіцкі герб ён атрымаў у якасці своеасаблівага пасагу пасля вянчання з полацкай князёўнай Аляксандрай

Прызнаннем асобага месца Полацкай зямлі ў ВКЛ былі свае князі, што звычайна даводзіліся блізкімі сваякамі самім гаспадарам (так афіцыйна менавалі вялікіх князёў). Полацкі ўладар Васіль-Воін быў родным братам Гедыміна, пры якім у Вялікае Княства ўвайшлі ўжо амаль усе беларускія землі, а Навагародак саступіў ролю сталічнага места Вільні. Дарэчы, заснаванне Вільні гаспадаром Гедымінам – не больш чым прыгожая легенда. На гэтым месцы ўжо трыста гадоў стаяў збудаваны палачанамі на заходняй мяжы свайго княства Крывіч-горад.

Прыязджаючы кіраваць у Полацк, усе князі-балты былі абавязаныя мяняць сваю веру на праваслаўе. Калі князь Скіргайла адступіў ад завядзёнкі і вырашыў застацца паганцам, раз'юшаны натоўп палачан прывязаў яго задам наперад да старой кабылы і пагнаў тую да гарад-



Вялікі князь Альгерд ушчэнт разграміў татар на рацэ Сінія Воды. У той бітве перамогу здабывалі і полацкія ваяры

ской брамы. У Прыдзвінні дагэтуль жывая прымаўка «Паехаў, як Скіргайла з Полацка».

У сярэдзіне XIV стагоддзя полацкі пасад займаў Гедымінаў унук Андрэй, сын вялікага князя Альгерда. У 1362 годзе Альгердава войска, у якім было нямала палачан, на рацэ Сінія Воды (прыток Паўднёвага Буга) ушчэнт разграміла велізарную татарскую арду. Гэта была першая ва ўсёй Еўропе буйная перамога над азіяцкімі заваёўнікамі. У выніку яе ад татар былі вызвалены ўкраінскія землі. Бліскучы поспех Альгерда на Сініх Водах стаў натхняльным прыкладам для тых, хто яшчэ цярпеў залатаардынскае ярмо, і падрыхтаваў наступную вялікую перамогу – над ханам Мамаем на Куліковым полі.

Андрэй Альгердавіч, які тады быў саюзнікам маскоўскага князя Дзмітрыя, прывёў з сабой на Кулікова поле дзве тысячы полацкіх ратнікаў і камандаваў правым флангам славянскага войска. Як сведчаць летапісы, на шостай гадзіне бітвы «полк левай рукі» і палова «вялікага палка» паказалі татарскім шаблям спіны. Правы фланг з палачанамі, у шэрагах якіх біўся князь Андрэй, стаяў насмерць, пакуль у сечу не ўступіў засадны полк. Затым яны разам перайшлі ў наступ, што і прадвызначыла перамогу.



Сярэднявечныя баявыя сякеры





У такой кальчузе магло быць да 60 тыс. кольцаў. *Полацкі краязнаўчы музей*

У Кулікоўскай бітве ўдзельнічала дзве тысячы полацкіх ваяроў. *Мініяцюра XVI ст.*

Грунвальдская бітва. Цэнтральная частка трыпціха.
*Мастак Міхась Басалыга*



На блізкай адлегласці ад стралы са сталёвым зрэзнем не ратавалі ні шчыты, ні кальчугі, ні панцыр. Нават праляцеўшы сотню метраў, такая страла прабівала дубовую дошку



Вітаўт Вялікі.
*З карціны мастака Міхася Басалыгі*




Але непараўнальна больш важнай для дзяржавы нашых продкаў была іншая перамога – пад Грунвальдам, якая спыніла 200-гадовую агрэсію нямецкіх рыцараў на ўсход. 15 ліпеня 1410 года злучаныя сілы ВКЛ і Польскага каралеўства разбілі там адну з наймацнейшых у той час армію агрэсіўнага Тэўтонскага ордэна. Большая частка з 40 палкоў-харугваў Вялікага Княства прыйшла на чале з князем Вітаўтам з беларускіх зямель (30 з іх мелі на сцягах «Пагоню»). Полацк як найбуйнейшы горад княства выставіў адну з самых вялікіх харугваў – каля дзвюх тысяч ваяроў. На яе сцягу паміж залатым (жыццё) і чорным (нябыт) палямі таксама ляцела «Пагоня». Палачанам разам з віленцамі выпала прыкрываць адыход нашых пасечаных палкоў. Кожны біўся супроць пяці нямецкіх рыцараў князя Валенрода і амаль не меў надзеі выжыць...

Шалом і алебарда пешага ваяра XV ст.



Сучасныя рыцары з новаполацкага рыцарскага клуба «Чорны Война»







Так выглядалі мячы XVI ст.
*Сучасная рэканструкцыя, зробленая ў творчай майстэрні «Коўня»*



Прывілей месту Полацкаму на самакіраванне паводле магдэбургскага права, дадзены вялікім князем Аляксандрам 7 кастрычніка 1498 г.

Орт. Манета маркграфства Брандэнбург.
*З калекцыі Полацкага краязнаўчага музея*





Арбалетны кручок. Пушчаныя з арбалета стрэлы ляцелі на 300–400 крокаў і прабівалі рыцарскія латы

Рэканструкцыя баявога рыштунку.
*Полацкі рыцарскі клуб «Жалезны воўк»*



Пасля Грунвальда ВКЛ стала вялікім не толькі па назве і тэрыторыі (болей за 900 тыс. кв. км), але і па сваёй палітычнай вазе ў Еўропе. Галоўную ролю ў Вялікім Княстве адыгрывалі беларускія землі. Нашым продкам належала большасць найвышэйшых дзяржаўных пасад. Землі, населеныя балтамі (продкамі сучасных літоўцаў), займалі ў ВКЛ менш за 1/15 тэрыторыі і мелі 1/20, або 5 працэнтаў яго насельніцтва. Дзяржаўнай мовай княства была старабеларуская. На ёй вялося справаводства ў вялікакняскай канцылярыі і судах, выдаваліся законы і прывілеі. Як паведамляў пасол Тэўтонскага ордэна, князь Вітаўт разам са сваім дваром гаварыў па-беларуску.

Вялікае Княства было ўсходнім аванпостам адзінага еўрапейскага свету. У Маскоўіі набірала сілу самаўладдзе, а дзяржаўны лад ВКЛ можна назваць парламенцкай манархіяй. Уладу князя абмяжоўваў своеасаблівы тагачасны парламент з дзвюх палат – Рады і Сойму. Беларускія гарады жылі паводле магдэбургскага права на самакіраванне, якое Полацк атрымаў 7 кастрычніка 1498 года. З тае пары ў горадзе гаспадарыў магістрат. Ён чыніў суд, збіраў падаткі, сачыў за правільнасцю мераў і вагаў на рынках. У магістраце засядала гарадская рада з дваццаці чатырох радцаў на чале з чатырма бурмістрамі. Вялікі князь прысылаў гораду свайго прадстаўніка – войта, але той мусіў прысягнуць на крыжы, што будзе служыць Полацку. Тое самае рабіў прызначаны са згоды гараджан ваявода. (Полацкае ваяводства было ўтворанае ў 1504 годзе).



Аздоба Евангелля XVI ст.
у рэнесансавым стылі.
*Полацкі музей беларускага кнігадрукавання*

Полацк са сваімі 100 тысячамі жыхароў уваходзіў у лік самых буйных еўрапейскіх гарадоў. Гандлёвага мыта тут на пачатку XVI стагоддзя збіралі ў 25 разоў болей, чым у таксама немалой Гародні. Дарэчы, на знак прызнання выдатнай ролі Полацка ў дзяржаве яго жыхары на ўсім абшары ВКЛ ад выплаты мыта вызваляліся. Полацкія рамеснікі і купцы дзеля абароны сваіх інтарэсаў, як і ва ўсёй Еўропе, аб'ядноўваліся ў цэхі, якія можна назваць сярэднявечнымі прафсаюзамі. Каб стаць сапраўдным майстрам, рамеснік павінен быў прайсці шмат прыступак і нарэшце здаць экзамен – «зрабіць штуку». Прыдзірлівыя калегі часта крывіліся, не хочучы прызнаваць чужую «штуку» сапраўдным шэдэўрам майстэрства. Тады, паводле цэхавай традыцыі, даводзілася даставаць з гаманца пятнаццаць злотых і клікаць экзаменатараў у карчму.

Такую каменную пячатку з «Пагоняй» археолагі знайшлі ў Полацку. Збройны вершнік змяшчаўся на пячатках паветаў, упрыгожваў гарадскія брамы, вежы магістратаў і сцягі ваяводстваў



Корчмы, дарэчы, былі ўстановамі вельмі дэмакратычнымі. І мешчанін, і шляхціч, і селянін пачуваліся тут раўнёю. У карчме продкі прызначалі важныя сустрэчы, спраўлялі святы, дзялілі чубы з непрыяцелямі. Гэтыя вясёлыя і разам з тым небяспечныя дамы стаялі пры дарогах, на скрыжаваннях, каля мастоў і перавозаў. Паколькі ў прыдзвінскіх корчмах адбывалася нямала важных падзей, гістарычныя дакументы захавалі іх дасціпныя назвы: Пагулянка, Пачакай, Зладзейка, Апошні грош...

Апрача рамесніцкіх цэхаў, у Полацку, як і ў іншых гарадах Вялікага Княства, існавалі моцныя аб'яднанні гараджан-месцічаў, якія ствараліся пры манастырах і цэрквах і называліся брацтвамі. Братчыкі будавалі храмы, сірочыя прытулкі і багадзельні, адкрывалі друкарні і школы. Вядомасцю ў дзяржаве карысталася полацкае праваслаўнае брацтва пры Богаяўленскім манастыры. У яго статуце была запісана галоўная мэта – «працаванне супольнае брацкае дзеля душы збавення».



Узор полацкай кафлі XVII ст.

Улетку брацтва наладжвала традыцыйную «пілігрымку» – паломніцтва ў святыя мясціны. Гаворка ішла не пра Ерусалім, а пра нейкае недалёкае ад горада месца, дзе калісьці з'явілася Багародзіца або прычынілася яшчэ якое дзіва. Братчыкі закуплялі колькі ялавак, дзесятак бараноў, варылі піва і мёд, грузілі на вазы харч і кухарскае прычындалле і па чатыры ў рад, пад музыку і спевы ўрачыста выходзілі з гарадской брамы. Адолеўшы палову шляху, маляўнічая працэсія спынялася на першую папаску каля вогнішча.

Цікава, што абавязковым дадаткам да брацкага статута былі зацверджаныя на агульным сходзе і ўхваленыя царквой правілы этыкету. Гэтая «Навука прыстойнасці», у прыватнасці, патрабавала: «1. Не класці локцяў на стол, не адварочвацца задам да суседа. 2. Не кідаць пад стол абгрызеных костак. 3. Не крычаць і не перабіваць субяседніка. 4. Не гаварыць з напоўненым ядой ротам. 5. Не прыносіць з сабой на банкет ніякага свайго пітва». Здаецца, некаторыя з брацкіх правіл не састарэлі да сёння.



Майстэрствам сваіх вырабаў далёка славіліся полацкія ключары і замкары

Полацкае права ўплывала на агульнадзяржаўнае заканадаўства Вялікага Княства, у тым ліку і на Статут 1588 г., самы перадавы збор законаў у тагачаснай Еўропе. Паводле гэтага Статута горад жыў да 1830 г.



У кавярні «Братчына» можна пачаставацца не горш, чым пяцьсот гадоў таму



Традыцыі сярэднявечных майстроў працягваюць сённяшнія полацкія ювеліры




Вельмі значная частка гараджан, у тым ліку і людзей простага звання, была пісьменная. Палачане чыталі не толькі рэлігійную, але і свецкую літаратуру, напрыклад, перакладзеныя на старабеларускую мову «Аповесць пра Трою», або прыгодніцкі раман «Александрыя», дзе апавядалася пра Аляксандра Македонскага. Горад меў сваіх астролагаў-звездароў і алхімікаў, якіх на нашых землях называлі чарнадзеямі.

У XVI стагоддзі большасць палачан захоўвала веру продкаў, аднак паміж праваслаўнымі з'явіліся ўжо каталікі, лютэране і кальвіністы. У горадзе знаходзілі гасцінны прытулак ерэтыкі з Маскоўскай дзяржавы. Дзесяць гадоў тут жыў і прапаведаваў вучань вядомага расійскага вальнадумца Феадосія Касога – Фама, што, як і настаўнік, уцёк у Беларусь ад вернае смерці.



Рыцарскі меч ва ўмелых руках быў страшнай зброяй

Грунтоўна распрацаванае полацкае права паўплывала на прыняты ў 1588 годзе III Статут ВКЛ, што быў найбольш перадавым і дасканалым зборам законаў у тагачаснай Еўропе. Паводле яго Полацк жыў аж на да 1830 года. Статут абараняў правы ўсіх жыхароў, незалежна ад веравызнання. Кожны вольны чалавек меў права выехаць за мяжу. Прыродныя багацці Статут бараніў значна лепей за некаторыя сучасныя законы. За разбурэнне сакалінага або лебядзінага гнязда злачынца плаціў ад трох да шасці коп грошай, за адлоў ці адстрэл бабра – ад дзвюх да чатырох. (Дзеля параўнання: рабочы вол або жарабец каштавалі тады дзве капы).

У параўнанні з Масковіяй, дзе, на вялікі жаль, не было агульнаеўрапейскай эпохі Рэнесансу, жыхары ВКЛ мелі нязмерна больш правоў і духоўнай свабоды, значна шырэйшыя магчымасці атрымаць адукацыю. Да заснавання Віленскай акадэміі тысячы юнакоў з Беларусі здабывалі асвету ва універсітэтах Чэхіі, Нямеччыны, Польшчы, Італіі, Швейцарыі, Францыі. Сярод іх было шмат палачан. У спісах студэнтаў Пражскай альма-матэр на мяжы XV–XVI стагоддзяў можна сустрэць імёны Івана Багдановіча, Мацвея, Пятра і яшчэ аднаго Івана з Полацка. Тады ж магістр-палачанін Ян чытаў студэнтам кракаўскага Ягелонскага універсітэта курс лекцый па творах Цыцэрона. Але самым славутым з тых, хто паехаў па навуку, стаў сын полацкага купца Лукаша Скарыны, Францішак.



Прыемна было грэцца каля грубкі, аздобленай такой кафляй

# БИВЛИЯ РУСКА

ВЫЛОЖЕНА ДОКТОРОМЪ
ФРАНЦИСКОМЪ СКОРИНОЮ
ИЗСЛАВНАГО ГРАДА ПО
ЛОЦЬКА, БОГУ КОЧТИ И
ЛЮДЕМЪ ПОСПОЛИТЫМЪ
К ДОБРОМУ НАУЧЕНИЮ



# Загадкі Скарыны



Старонка Скарынавай кнігі «Апостал». Вільня. 1525 г.

Увосень 1512 года сакратар старажытнага універсітэта італьянскага горада Падуя запісваў у сваю кнігу: «9 лістапада ў біскупавым палацы перад калегіяй найслаўнейшых дактароў мастацтваў і медыцыны выдатны доктар мастацтваў беларус Францыск, сын Лукі Скарыны з Полацка, здаваў экзамен і атрымаў аднадушную ўхвалу прысутных вучоных. Паводле ўсіх правілаў ён быў абвешчаны доктарам медыцынскіх навук і атрымаў знакі доктарскай годнасці».

Напэўна, той вечар Францішкавага жыцця не абышоўся без келіха добрага віна і, вядома ж, успамінаў – пра полацкае дзяцінства, пра філасофскі факультэт Кракаўскай альма-матэр, пра небяспечную дарогу праз некалькі краін сюды, у адзін з самых славутых еўрапейскіх універсітэтаў. Цяпер ён – першы сярод усходніх славян доктар у лекарскіх навуках. Перад ім адкрываюцца велізарныя магчымасці: служба лекарам пры двары кагосьці з уладароў гэтага свету, заняткі навукай, заможнае жыццё… Але Скарына як сапраўдны гуманіст і сын эпохі Рэнесансу рыхтаваў сабе іншы лёс. Магчыма, якраз там, у Падуі,



Такім уявіў Скарыну мастак Лазар Ран. 1956 г. *Музей беларускага кнігадрукавання*



Тытульны аркуш «Псалтыра», першай беларускай друкаванай кнігі, выдадзенай Ф. Скарынам у 1517 г. у Празе



Ісус Навін вядзе людзей ізраілевых праз раку Іярдан. Тытульны аркуш кнігі «Ісус Навін». Прага. 1518 г. Па гравюрах Скарынавых выданняў можна вывучаць адзенне, побыт, заняткі беларусаў XVI ст.



Першадрукар Францішак Скарына. *Скульптар Аляксей Глебаў. 1954 г.*



Партрэт Скарыны
з кнігі «Ісус Сірахаў».
Прага. 1517 г.

падарожнік з горада асветніцы Еўфрасінні ўмацаваўся ў думцы: ён дасць свайму народу магутную духоўную зброю і найлепшыя лекі – друкаваную кнігу на зразумелай мове.

Першая з яго кніг выйшла ў Празе 6 жніўня 1517 года. Гэта быў «Псалтыр», услед за якім Францішак Скарына выдаў яшчэ 22 перакладзеныя на тагачасную беларускую мову біблійныя кнігі і тым самым увёў Беларусь у сям'ю перадавых еўрапейскіх народаў.

«Біблія» Скарыны з'явілася раней за нямецкую Лютараву. Дзякуючы геніяльнаму палачаніну беларусы атрымалі друкаваную Кнігу кніг на роднай мове аднымі з першых у Еўропе – раней за рускіх і ўкраінцаў, за літоўцаў і латышоў, за сербаў, балгараў, французаў. Беларуская «Біблія» на восем гадоў апярэдзіла англійскі друкаваны пераклад і амаль на паўстагоддзя – польскі.


ПОЧИНАЮТСЯ
АКАФІСТЫ НА
ВСЮ НЕДЕЛЮ
ПЕРВЫ ЖИВО
НОСНОМУ ГРО
БУ ГОСПОДНЮ
ВНЕДЕЛЮ

Тытульны аркуш «Акафіста труне Гасподняй» з «Малой падарожнай кніжкі». Вільня. 1522 г.

Апрача сваіх пражскіх выданняў, у 1522 і 1525 гадах Францішак выпусціў у Вільні «Малую падарожную кніжку» і «Апостала». Заснаваная знакамітым палачанінам Віленская друкарня была першай ва Усходняй Еўропе. Імкнучыся пашырыць святло навукі сярод усходніх суседзяў, Скарына прывёз вялікую партыю сваіх кніг у Маскву, дзе прапанаваў свецкім і духоўным уладарам наладзіць друкарскую справу. Замест удзячнасці ён убачыў, як па загаду маскоўскага князя з ягоных выданняў склалі вялізнае вогнішча. Скарынаў «Псалтыр» убачыў свет за 47 гадоў да кнігі «Апостал» Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца, з якой пачалося расійскае кнігадрукаванне.

Скарына ўвайшоў у гісторыю як беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар. Як пісьменнік, што служыў не эліце, а ўсяму народу. Як выдатны перакладчык з некалькіх старажытных і новых моў. Як рэдактар і выдавец, што дасягнуў найвялікшай гармоніі слова і друкарскага мастацтва. Як патрыёт, пяру якога належыць самы прачулы за ўсю беларускую гісторыю, геніяльна просты гімн-хваласпеў любові да Бацькаўшчыны:



Помнік Францішку Скарыну ў Вільні.



У маляўнічым месцы над Дзвіной нядаўна пабудаваны касцёл у гонар святога Андрэя Баболі. А на гэтым баку ракі, у Запалоцці, калісьці знаходзіўся бернардзінскі кляштар, дзе юны Скарына спасцігаў лаціну



Мініяцюра з кнігі «Дзесяціглаў». Перапісчык Мацей Дзясяты з Полацка. XVI ст. Гэтую рукапісную кнігу мог трымаць у сваіх руках малады Францішак




У мемарыяльнай зале аднаго з найстаражытнейшых у Еўропе Падуанскага універсітэта знаходзяцца выявы сарака самых знакамітых дзеячоў навукі, якіх дала свету гэтая альма-матэр. Фрэскавы партрэт Скарыны недалёка ад ягоных братоў па духу Галілео Галілея і Мікалая Каперніка

«Панежэ ад прыраджэння звяры, ходзячыя ў пустыні, знаюць ямы свая, пціцы, лятаючыя па воздуху, ведаюць гнёзды свая, рыбы, плываючыя па мору і рэках, чуюць віры свая, пчолы і тым падобная бароняць вулляў сваіх, – така ж і людзі, ігдзе зрадзіліся і ўскормлены суць па Бозе, к таму месту вялікую ласку імаюць».

Ён аздобіў свае кнігі высокамастацкімі гравюрамі, па якіх можна вывучаць тагачаснае полацкае і беларускае жыццё – побыт, адзенне, тэхніку будоўлі. Смела адступаючы ад канонаў, Скарына змясціў у Біблії ўласны партрэт. Нават самога Бога чытачы ўбачылі без узаконенага німбу. За парушэнне царкоўных правілаў выданні Біблії Скарыны маглі не меней за трынаццаць разоў спаліць на вогнішчы як ератыка.

Скарынава жыццё было напоўненае падарожжамі па Еўропе, узлётамі да вышыняў славы і горкімі расчараваннямі. У ім адлюстравалася ўся тая вірлівая, авантурная і стваральная эпоха. Ён сустракаўся з Лютэрам і дыскутаваў з сусветна вядомым медыкам і алхімікам Парацэльсам. Быў сакратаром і лекарам у віленскага біскупа Яна. Запрашаўся ў Кёнігсберг на службу да апошняга магістра Тэўтонскага ордэна Альбрэхта Брандэнбургскага, які надаў яму шляхецкія правы. Браў удзел у складанні Статуту ВКЛ 1529 года.

За братавы даўгі крэдыторы пасадзілі доктара Францішка ў турму, адкуль яго вызваліў сам вялікі князь Жыгімонт Стары. Прызнаючы неацэнныя заслугі Скарыны перад Айчынай, манарх даў яму адмысловы

Такім засяроджаным і задуменным убачылі выдатнага гуманіста стваральнікі помніка Скарыну скульптары А. Глебаў, І. Глебаў і А. Заспіцкі





У цэнтры гэтай кніжнай застаўкі – сігнет (выдавецкі знак) Скарыны, які сімвалізаваў перамогу святла над цемрай, ведаў над невуцтвам, жыцця над смерцю

Гравюра з храмавым рукамыйнікам на колах аздабляла адзін з аркушаў трэцяй кнігі «Царствы», выдадзенай Скарынам у 1518 г.





Палачане здавён любяць пакідаць нашчадкам надпісы і знакі на камянях. Валун на дзвінскім беразе паблізу Музея беларускага кнігадрукавання




Адзін з прадаўжальнікаў справы Скарыны, перакладчык і выдавец Евангелля, шляхціч Полацкага павета Васіль Цяпінскі.




Францішак Скарына. *Аўтар медаля Яніс Струпуліс*

прывілей, дзе гаварылася: «Забараняю ўмешвацца ў ягоныя справы, учыняць яму хоць які гвалт, змушаць да выканання павіннасцяў ці гарадскіх службаў нароўні з іншымі жыхарамі таго места, якое ён сам абярэ для жыцця».

Такім местам неўзабаве пасля вяртання на волю для Францішка Скарыны стала Прага, дзе ён і скончыў свой зямны шлях, пакінуўшы мноства загадак і таямніц. Дагэтуль дакладна невядома, ні калі самы славуты з палачан прыйшоў на свет, ні калі навекі заручыўся з зямлёю. Невядома, у каго ён служыў сакратаром перад экзаменам у Падуі – у караля Даніі ці ў гаспадара Дацыі (Валахіі). Невядома, хто ствараў да ягоных кніг гравюры. (Некаторыя скарыназнаўцы лічаць, што першадрукар быў і выдатным мастаком). Вучоныя спрачаюцца пра яго веравызнанне, пра час паступлення ў Кракаўскі універсітэт, пра тое, хто ж у сапраўднасці займаў у чэшскага караля пасаду садоўніка – беларус Францішак Скарына ці італьянец Франчэска Банафардэ...



У залах Музея беларускага кнігадрукавання адноўленыя ўсе этапы, якія на сваім шляху да чытача праходзіла кніга



Ф. Скарына. Чацвёртая кніга «Царствы». Прага. 1518 г.



Полацк адзначае Скарынаўскае свята кнігі

У Полацку пасля Музея беларускага кнігадрукавання вы прыйдзеце да велічнага помніка Скарыну на самай прыгожай гарадской плошчы. Калі экскурсавод забудзе вам гэта сказаць, памятайце, што полацкі помнік – не адзіны. Другі – у дворыку Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў Мінску, трэці – у Лідзе, чацвёрты – у Калінінградзе-Кёнігсберзе, пяты – у Празе. Скарына вярнуўся ў чэшскую сталіцу ў 1996 годзе і застыў у бронзе паблізу ад каралеўскага замка на Градчанах.

Калі вам пашчасціць трапіць у Падую, абавязкова наведайце універсітэцкую мемарыяльную залу, якая яшчэ называецца «Залай сарака». Там сярод фрэскавых партрэтаў 40 знакамітых дзеячоў еўрапейскай навукі, што выйшлі са сцен Падуанскай альма-матэр, недалёка ад выяваў Галілео Галілея і Мікалая Каперніка вы ўбачыце чалавека ў мантыі, аздобленай залатой ніткай і футрам гарнастая. Яго твар будзе свяціцца розумам, рашучасцю і духоўнай чысцінёю. Над партрэтам вы прачытаеце надпіс на лаціне: «Францыск Скарына з Полацка».

Выданні Ф. Скарыны пражскага і віленскага друку





Адна з улюбёных кніжных заставак першадрукара

# На рубяжы Вялікага Княства



Аўтар славутай «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» італьянец Аляксандр Гваніні служыў у войску Вялікага Княства Літоўскага, займаючы пасаду віцебскага каменданта. У ягонай кнізе падрабязна апісаныя падзеі Інфлянцкай вайны на Полаччыне

Вялікае Княства спыніла націск тэўтонскіх рыцараў, але пасля некалькіх дзесяцігоддзяў адносна мірнага жыцця сутыкнулася з новым ворагам – на ўсходзе, дзе ўзмацнілася Маскоўскае княства. Вызваліўшыся ад залатаардынскага ярма, Масковія атрымала ў спадчыну і жорсткае адзінаўладдзе, і сляпую падначаленасць «холопов государевых», і ідэю ўлады над усім светам – «Два Рима пало, а Москва третий есть, а четвертому не быти». Ужо напрыканцы XV стагоддзя Масква заявіла аб прэтэнзіях на Беларусь і Украіну, называючы іх не інакш як «искони русскими землями».

Падставай для вайны магло стаць усё, што заўгодна: напрыклад, нежаданне гаспадароў ВКЛ называць маскоўскіх князёў царамі. Полаччына як усходні рубеж дзяржавы не раз прымала на сябе першыя ўдары. Войны сталі амаль беспарапыннымі. Яны вяліся ў 1492–1494, 1500–1503, 1507–1508, 1512–1522 гадах. У 1502-м усходнія суседзі спустошылі і спалілі ўсе вёскі паміж Віцебскам і Полацкам. Князь Васіль Шуйскі аддаў Полацк агню ў 1513-м. Наступны раз варожае войска з'явілася пад полацкімі сценамі праз два гады. У траўні 1518-га палачане зноў мусілі частаваць няпрошаных гасцей кіпячай смалой і варам. Замак непрыяцелю ўзяць не ўдалося, але неўмацаваныя пасады згарэлі.




Старонка «Хронікі» А. Гваніні, выдадзенай у 1581 г. у Кракаве




Аблога Полацка войскамі вялікага князя і караля Сцяпана Батуры (Стэфана Баторыя). *Гравюра XVI ст.*

**Вялікае Княства Літоўскае ў XVI ст. (да Люблінскай уніі 1569 г.)**




Каб выстаяць, Полацк павінен быў увесь час клапаціцца пра надзейнасць сваёй абароны. У 1552 годзе адбылася рэвізія места Полацкага, дакументы якой дайшлі да нашага часу. Горад дзяліўся на шэсць пасадаў, або канцоў. Насупраць Сафійскага сабора на Дзвіне тады існаваў востраў даўжынёю каля вярсты, дзе знаходзіўся манастыр Іаана Прадцечы. Замак быў рублены з хваёвага бярвення і налічваў дзевяць вежаў вышынёй ад 5 да 8 і даўжынёй прыкладна 10 м. У сутоку Дзвіны і Палаты стаяла Вусценская вежа з уздымным мостам на ланцугах. Каб ворагі не маглі падпаліць вежы знізу, іх вышэй чалавечага росту абкладвалі дзёрнам. Крыху пазней на Верхнім замку паўстала магутная мураваная

План аблогі Полацка ў 1579 г.
*Малюнак удзельніка тых падзей Станіслава Пахалавіцкага*




Маскоўскі цар
Іван IV Грозны



вежа, вядомая пад назвай Каралеўская, або Красная. Абнесеныя ровам і валам замкавыя ўмацаванні цягнуліся на 1400 м, агульная ж даўжыня гарадскіх сцен складала на той час 4,8 км. «Полацк на Дзвіне места драўлянае, вялікае, шырокае, парканамі ды густымі астрогамі абгароджанае. Замак у ім з дрэва, але добра ўмацаваны прыродаю. Абведзены ён наўкола сценамі ды вежамі». Такім убачыў наш горад у сярэдзіне XVI стагоддзя італьянец Аляксандр Гваніні, які служыў у войску ВКЛ.

Тады ішла чарговая вайна Маскоўскай дзяржавы з Вялікім Княствам – Інфлянцкая, або Лівонская. Узімку 1563 года Полацк узяло ў аблогу велізарнае 60-тысячнае войска на чале з самім царом Іванам Грозным. Перад ім ляжаў найбагацейшы горад ВКЛ з 12 манастырамі і 18 храмамі. Зусім невялікі ў параўнанні з непрыяцелем гарнізон здавацца не збіраўся і нават адважваўся на начныя вылазкі. Але сілы былі занадта няроўныя, і пасля двух тыдняў гераічнай абароны полацкі ваявода Станіслаў Давойна згадзіўся здаць замак. Полацкая шляхта і пяцьсот «каронных рыцараў» адмовіліся скласці зброю і адбіваліся яшчэ некалькі дзён, але лёс горада быў вырашаны. Вераломна парушыўшы свае абяцанні, цар аддаў Полацк на разрабаванне. Усіх палачан абвясцілі палоннымі. Каталікаў пасеклі шаблямі, іудзеям – ад старых да немаўлят – выпала страшная доля загінуць пад дзвінскім лёдам. Ужо знаёмы нам Аляксандр Гваніні пакінуў звесткі, што Іван Грозны вывеў з горада 50 тысяч палонных, большасць з якіх былі мірнымі жыхарамі. На зімовых дарогах людзей амаль не кармілі, і яны тысячамі паміралі ад голаду і марозу.



Алебарда
і рыцарскі
шалом
тыпу
«марыён»



Знойдзеныя
ў Полацку каменныя
гарматныя ядры
часоў Сярэднявечча



Тураўля.




Красны.




Сітна.



Суша.




Сокал.




Каз'ян.
Замкі, пабудаваныя маскавітамі на захопленых у Інфлянцкай (Лівонскай) вайне прыдзвінскіх беларускіх землях

План аблогі і штурму Полацка войскам Стэфана Баторыя, зроблены Станіславам Пахалавіцкім у 1579 г.

На месцы спаленага полацкага пасада заваёўнікі рукамі палачан збудавалі Ніжні замак. (Цяпер там стадыён «Спартак»). У замку жылі толькі царскія ваякі, ад чаго паходзіць іншае яго найменне – Стралецкі. Полацк дагэтуль захаваў яшчэ дзве тагачасныя назвы: Стралецкую вуліцу і вал Івана Гроznага. Вал, якім быў абкружаны Ніжні замак, ужо даўно ператварыўся для гараджан у адно з улюбёных месцаў шпацыраў. Асабліва маляўніча гэтая мясціна выглядае тады, калі восень «падпальвае» старыя клёны.

Страта фарпоста еўрапейскай цывілізацыі, якім быў Полацк, і жорсткая расправа з яго абаронцамі і мірным насельніцтвам выклікалі гучны рэзананс у многіх краінах. «Лятучыя лісткі» з апісаннем полацкай трагедыі выходзілі па-англійску, нямецку, французску, чэшску, галандску, лацінску. Менавіта захоп Полацка прыспешыў заключэнне ў 1569 годзе Люблінскай уніі. Вялікае Княства Літоўскае і Польскае каралеўства аб'ядноўваліся ў агульную дзяржаву – Рэч Паспалітую. Праўда, ВКЛ захоўвала не толькі сваю назву і тытул, але і ўласную сістэму дзяржаўных пасадаў, войска, скарб, мытную службу, законы. (У Статуце ВКЛ 1588 г. Люблінская унія нават ні разу не згадвалася).






Памятны медаль
з вывай вялікага князя і
караля Стэфана Баторыя
ў гонар вяртання
Полацка.
*Срэбра. 1582 г.*

Полацк быў адваяваны ў маскавітаў толькі ў 1579 годзе войскамі вялікага князя і караля Сцяпана Батуры (Стэфана Баторыя). За час вайны места і ваколіцы так абязлюдзелі, што на адбудову полацкіх умацаванняў бралі сялян з-пад Магілёва.

Як і кожны старажытны горад, Полацк мае сваіх прывідаў – гэтых своеасаблівых удзельнікаў і сведкаў далёкіх, пераважна драматычных падзей. Гісторыя самых даўніх прывідаў звязана якраз з Інфлянцкай вайной. Кажуць, што каля Ксаверыйскіх могілак у месяцавыя ночы можна спаткаць трох мужчын у манаскім адзенні. На пачатку мінулага стагоддзя гарадскія краязнаўцы лічылі іх зданямі каталіцкіх манахаў Адама, Дамініка і Пятра, закатаваных у 1563 годзе царскімі стральцамі.

Тая вайна дадала да шматлікіх полацкіх таямніц адну з самых хвалюючых. Пасля 1579 года знікаюць звесткі пра найкаштоўнейшую бібліятэку Сафійскага сабора, дзе сярод іншых унікальных кніг маглі захоўвацца і граматы Усяслава Чарадзея, і фаліянты, перапісаныя рукою Еўфрасінні. Сёння вядома ўсяго некалькі былых полацкіх кніг і рукапісаў, што трапілі ў замежныя бібліятэкі. Дзе ж астатнія? Арыгінальны адказ дае гістарычна-фантастычная аповесць беларускага гісторыка і пісьменніка Вацлава Ластоўскага «Лабірынты». Яе герой знаходзіць Сафійскую бібліятэку ў падземных хадах, якія ўтвараюць пад Полацкам сапраўдныя лабірынты.

Фантастыка фантастыкай, а існаванне пад сярэднявечным горадам падзямелляў і разгалінаваных хадоў – гістарычны факт. Іх даследаваў і склаў у 1864 годзе падрабязны план археолаг і мастак Дзмітрый Струкаў. Захаваліся апісанні некалькіх падземных экспедыцый, зладжаных на пачатку мінулага стагоддзя. Ход з Богаяўленскага сабора ў бок Дзвіны мы з сябрамі знайшлі ў сярэдзіне 1960-х. Магчыма, вам пашчасціць больш...





Калі вы маеце ўважлівае
вока, на старадаўніх
полацкіх вулачках вас
чакае безліч маленькіх
адкрыццяў





Залатая манета
вартасцю дзесяць
дукатаў часоў
Інфлянцкай вайны

Вызваленне Полацка
вялікім князем і каралём
Стэфанам Баторыем.
*Дрэварыт XVI ст.*

# Браму вучонасці вам адчыняю

Адзін з найславуцейшых палачан, асветнік, пісьменнік і педагог Сімяон Полацкі



З-за бясконцых цяжкіх войнаў XVII стагоддзе ў беларускай гісторыі называюць «крывавым патопам». Не лепшымі былі тыя часы і для Полацка. Самай страшнай стала развязаная царом Аляксеем Міхайлавічам (зноў жа за «исконі русские земли») вайна 1654–1667 гадоў. У ёй Беларусь страціла звыш паловы насельніцтва – палеглымі ў бітвах, памерлымі ад голаду, пераселенымі ў Расію. Яшчэ большыя страты напаткалі захопленую на самым пачатку вайны Полаччыну. Дастаткова сказаць, што з болей за пятнаццаць сотняў дамоў у сталіцы ваяводства ацалела толькі сто. Горад не далічыўся тысяч працавітых, пісьменных, майстравітых жыхароў, якія не па сваёй волі мусілі аздабляць маскоўскія храмы і палацы, прымнажаць царскія багацці ў палатах Крамля.

Выхаванец і вучань С. Полацкага цар Фёдар Аляксеевіч. 1686 г. *У стварэнні партрэта бралі ўдзел мастакі беларускага паходжання Ерафей Яліна і Лука Смальянінаў*



У 1662 годзе ў адной толькі маскоўскай Срэбнай палаце служыла пяцьдзясят беларускіх майстроў пераважна з Полацка і іншых прыдзвінскіх гарадоў. У Зброевай, Залатой і Майстроўнай палатах таксама працавала мноства палачан: шабельнік Рыгор Іванаў, чаканшчык Іван Андрэеў, «скорых ковчежных дел мастер» Сымон Якаўлеў, сярэбранікі Сцяпан Астаф'еў, Васіль і Фяклістка Грыгор'евы, Мікіта Сямёнаў, Іван і Фёдар Палачанінавы... З нашай зямлі перасялілі майстроў 60 спецыяльнасцей. Шмат якіх з гэтых рамёстваў у Масковіі датуль не ведалі. Нашы суайчыннікі прынеслі ўсходнім суседзям майстэрства вырабу шматколернай кафлі, разьбы па дрэве з пазалотай, больш передавыя тэхналогіі ў зброевай справе і ювелірным мастацтве.




Масква. Значную частку насельніцтва маскоўскай Мяшчанскай слабады складалі вымушаныя перасяленцы-палачане. *Тагачасная гравюра.*



У Музеі-бібліятэцы Сімяона Полацкага на яго радзіме

Тады ж у Маскве, шукаючы магутнага мецэната, пад абаронай якога ў тую жорсткую эпоху ён мог бы спакойна служыць сваёй музе, з'явіўся найславуцейшы з полацкіх перасяленцаў Самойла (Самуіл) Пятроўскі-Сітніяновіч, у манастве Сімяон.

Ён нарадзіўся ў 1629 годзе ў Полацку, а свой шлях у навуку пачаў з брацкай школы Богаяўленскага манастыра над Дзвіной. Прага ведаў прывяла юнака пасля Кіева-Магілянскай калегіі ў Віленскую акадэмію. На той час, апрача роднай беларускай, ён ужо настолькі дасканала авалодаў лацінаю, царкоўнаславянскай і польскай мовамі, што пісаў на ўсіх чатырох вершы.

Апынуўшыся ў сталіцы Маскоўскай дзяржавы, высокаадукаваны палачанін (на чужыне ён пачаў падпісвацца Полацкі) адразу атрымаў адказнае даручэнне: стварыць лацінскую школу для царскіх людзей з Прыказа таемных спраў. Так наш зямляк прыклаў руку да развіцця расейскай разведкі.

Неўзабаве Сімяона прызначылі выхавальнікам і настаўнікам царскіх дзяцей. Ён асабіста вучыў спадкаемцаў трона – царэвічаў Аляксея ды Фёдара і царэўну Соф'ю, а таксама наглядаў за выхаваннем царэвіча Пятра.

Хоць Полацкі і знаходзіўся пад царскай абаронай, жылося яму ў Маскве не надта



Кніга С. Полацкага «Вертоград многоцветный» была для свайго часу своеасаблівай энцыклапедыяй



Герб места Полацка. 1587–1614



Адна з першых маскоўскіх друкарань XVII ст.





Узоры паэтычных эксперыментаў знакамітага палачаніна





Музей-бібліятэку Сімяона Полацкага спецыялісты называюць найлепшым музеем такога кшталту ва Усходняй Еўропе

соладка. Вярхі расійскага праваслаўя ненавідзелі Сімяона як падазронага «лацінніка». Прыгняталі яго і бязлітасныя маскоўскія парадкі. У Рэчы Паспалітай прадстаўнікі розных рэлігійных плыняў праводзілі багаслоўскія дыспуты або займаліся літаратурнай палемікай. У Маскавіі – каб не казалі ерасі, людзям выразалі языкі.

Але і ў той задушлівай атмасферы Полацкі мужна і аддана служыў богу асветы. Ён стаў першым у Расіі прафесійным пісьменнікам і выхаваў цэлую школу паэтаў. Пасля таго як Сімяон адкрыў сваю друкарню, іх колькасць у дзяржаве адразу падвоілася (замест адной стала дзве).






Сімяон Полацкі.
*Медальер Яніс Струпуліс*

У той самы час на радзіме нашых продкаў кнігі сыходзілі з варштатаў у 134 друкарнях. Полацкі напісаў праект першай у Расіі вышэйшай навучальнай установы, паводле якога потым стваралася маскоўская Славяна-грэка-лацінская акадэмія. Яе студэнт Міхайла Ламаносаў на Сімяонавых творах упершыню пазнаёміўся з вершаскладаннем. У 1672 годзе Полацкі адкрыў першы ў Расійскай дзяржаве прыдворны тэатр. Яго акторамі сталі жыхары маскоўскай Мяшчанскай слабады, дзе сялілі беларусаў.





Копіі рукапісаў С. Полацкага






Нядаўна на цэнтральным гарадскім праспекце з'явіўся помнік Сімяону Полацкаму.
*Скульптар Аляксандр Фінскі*



Полацкі Богаяўленскі праваслаўны манастыр падпарадкоўваўся непасрэдна Кіеўскай мітраполіі і канстанцінопальскаму патрыярху



Старонка «Аповесці пра Варлама і Іосіфа».
*Масква. 1680 г.*

Педагагічных, выдавецкіх ды іншых асветніцкіх клопатаў у Сімяона было бязмежнае мноства, але найперш ён жыў літаратурнай творчасцю. Вучні Полацкага захапляліся неверагоднай працавітасцю настаўніка: штодня з-пад яго пяра выходзіла восем спісаных дробным почыркам старонак – вершы, п'есы, царкоўныя «словы» і казанні. Толькі паэтычная спадчына палачаніна налічвае больш за 50 тысяч радкоў. Вялікую славу прынёс яму вершаваны пераклад Псалтыра. Большасць сваіх вершаў паэт сабраў у кнігі «Рифмологион, или Стихослов» і «Вертоград многоцветный». «Вертоград» быў своеасаблівай энцыклапедыяй, адкуль чытач мог атрымаць звесткі з гісторыі, геаграфіі, медыцыны... Сярод яе герояў былі антычны філосаф Дыяген, персідскі цар Артаксеркс, біблійны волат Самсон. Пасля Сімяона засталася найбагацейшая ў Маскве бібліятэка: творы Цыцэрона, Тамаша Аквінскага, Эразма Ратэрдамскага, граматыкі, слоўнікі, медыцынскія трактаты...

Пры канцы XVII стагоддзя маскоўскі патрыярх атрымаў ад казакоў-запарожцаў просьбу прысланаць у іх царкву зборнікі казанняў вучонага палачаніна. Казакі не ведалі, што расійская праваслаўная царква ўжо абвясціла Сімяонавы творы ератычнымі і нават забараніла згадваць іх. Яго велізарны ўклад у культуру Расіі быў ацэнены толькі праз стагоддзі.

Трапіўшы на радзіму асветніка, абавязкова наведайце цудоўны музей-бібліятэку Сімяона Полацкага (гэта частка Музея беларускага кнігадрукавання). Ва ўтульнай зале з галерэяй, сярод тысяч тамоў на розных мовах вы сапраўды падыхаеце паветрам эпохі, якую выдатны палачанін асвятліў сваім талентам.

Шырокую славу прынёс С. Полацкаму ягоны паэтычны пераклад Псалтыра, ілюстраваны гравюрамі Сімона Ушакова.
*Масква. 1680 г.*



Аўтограф Сімяона Полацкага

# За Дзвіною – іншая краіна

Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Аўгуст Моцны быў у Паўночнай вайне саюзнікам Расіі



На пачатку XVII стагоддзя, у гады Паўночнай вайны 1700–1721 гадоў, Полаччына зноў стала тэатрам вайсковых дзеянняў. Расійскі цар Пётр І імкнуўся «прасекчы вакно ў Еўропу». Яму супрацьстаяў шведскі кароль Карл XII. Наш манарх, вялікі князь літоўскі і кароль польскі Аўгуст II, быў саюзнікам Пятра. У Беларусь уступіла 70-тысячная царская армія, але яе салдаты і афіцэры ў сваіх паводзінах больш нагадвалі не саюзнікаў, а захопнікаў. Пётр І не толькі не стрымліваў падданых, а, наадварот, даваў уласныя прыклады жорсткага абыходжання з беларусамі.

Улетку 1705 года цар на некалькі тыдняў спыніўся ў Полацку. Гэтыя гасціны прынеслі гораду адны няшчасці. Цар не вылучаўся набожнасцю і не цырымоніўся нават з расійскім духавенствам. Што ўжо казаць пра уніятаў (грэка-католікаў), якімі тады была большасць нашых продкаў! Сваю нянавісць да тагачаснай народнай веры беларусаў Пётр засведчыў не дзе-небудзь, а ў кафедральным Сафійскім саборы, што ад 1596 года быў галоўным храмам беларускіх уніятаў. Тут, у старажытных сценах Сафіі, самадзержац разам з князем Аляксандрам Меншыкавым і некалькімі прыдворнымі афіцэрамі ўласнаручна ўдзельнічаў у забойстве пяці грэка-каталіцкіх святароў. (Царскі ўрад вымушаны быў тлумачыць гэты крывавы інцыдэнт еўрапейскім дварам, выкарыстоўваючы самыя фантастычныя адгаворкі). Але Пётр не супакоіўся і загадаўператварыць Сафію ў вайсковы склад, дзе трымалі амуніцыю і коней, а ў сутарэннях – парахавыя запасы. Досыць было іскры, каб наша святыня ўзляцела ў паветра. І гэтая іскра ўспыхнула: 1 траўня 1710 года, якраз напярэдадні адыходу з Полацка расійскага войска, магутны выбух ператварыў Сафійскі сабор у руіны.



Гусарскі панцыр




Пётр І. Расійскі цар паводзіў сябе ў Полацку не як саюзнік, а як захопнік. *Гравюра пачатку XVIII ст.*





«Стрэчанне». Абраз XVIII ст.
Сем унікальных абразоў таго часу з Сафійскага сабора з'яўляюцца сёння гонарам Полацкай мастацкай галерэі. Яны спалучаюць у сабе заходнееўрапейскія традыцыі з усходнееўрапейскімі і вылучаюцца жывымі народнымі абліччамі персанажаў.

Нялёгкі клопат аднаўлення старажытнага храма ўсклаў на сябе полацкі уніяцкі арцыбіскуп Фларыян Грабніцкі, які ўжо за адно гэта варты нашай памяці. На запрашэнне ўладыкі з Вільні прыехаў вядомы ў Вялікім Княстве архітэктар Ян Глаўбіц. Адбудова доўжылася з 1738 да 1750 года. У выніку сабор набыў добра знаёмае нам сучаснае аблічча і стаў помнікам архітэктуры так званага віленскага барока. З павагі да старажытных дойлідаў Глаўбіц уштукаваў у новы храм падмурак і часткі сцен ранейшай Сафіі, якая памятала Усяслава Чарадзея і Еўфрасінню.

Яшчэ адно адраджэнне сабора да жыцця палачане святкавалі ўжо ў наш час. У 1983 годзе адрэстаўраваны храм стаў музеем і канцэртнай залай з арганам, дзе цяпер выступаюць славутасці з усяго свету. Тут лекуе душу сімфонія архітэктуры і колераў, музыкі і скульптуры. За ўзнёслыя пачуцці, што ахопліваюць нас у Сафійцы, як з любасцю называюць сабор гараджане, мы павінны быць удзячныя аўтару праекта рэстаўрацыі Валерыю Слюнчанку. (Паводле яго ж праектаў у Полацку аднаўляліся Богаяўленскі і Крыжаўзвіжанскі саборы).

Зруйнаваная салдатамі Пятра I полацкая Сафія была адбудаваная дзякуючы клопату уніяцкага арцыбіскупа Фларыяна Грабніцкага





Такое аблічча набыў Сафійскі сабор пасля аднаўлення ў сярэдзіне XVIII ст. у стылі віленскага барока. *Архітэктар Ян Глаўбіц*


Гучыць арган…


Тут, у Сафійцы, лекуе душу непаўторная сімфонія архітэктуры і жывапісу, музыкі і скульптуры


У новы храм увайшлі падмурак і часткі сцен ранейшай Сафіі. Гэтая старажытная мураўка – сучасніца князя Усяслава Чарадзея

Але вернемся ў XVIII стагоддзе. Межы нашай дзяржавы пасля Паўночнай вайны (за яе гады Беларусь страціла амаль 800 тыс. жыхароў, або кожнага трэцяга) засталіся без змен, аднак рэальны суверэнітэт быў амаль згублены. Тым больш, што «саюзнік» Пётр I дамогся значнага скарачэння войска Рэчы Паспалітай. Яно не павінна было перавышаць 24 тысяч (18 тысяч у Польшчы і 6 тысяч у Вялікім Княстве Літоўскім). Тым часам арміі бліжэйшых суседзяў былі шматкроць большымі: у Расіі – 350 тысяч, Аўстрыі – 280 тысяч, Прусіі – 200 тысяч.





Карта Вялікага Княства Літоўскага пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай



Полацкі грэка-каталіцкі арцыбіскуп Ясон Юнаша-Смагаржэўскі ў 1780 г. уразіў Кацярыну II архітэктурай і маляўнічасцю летняй рэзідэнцыі уніяцкіх уладыкаў у Струні пад Полацкам

Лёс знясіленай войнамі Рэчы Паспалітай быў прадвызначаны. Магутныя суседзі, і найперш Расія, перашкаджалі правядзенню перадавых рэформ, умешваліся ў палітыку радзімы нашых продкаў: накіроўвалі на яе абшары войскі, узводзілі на трон сваіх стаўленікаў. У 1772 годзе Расія, Аўстрыя і Прусія падпісалі ў Пецярбурзе канвенцыю пра першы падзел Рэчы Паспалітай. Імператрыца Кацярына II забрала сабе Усходнюю Беларусь з той часткай Полацкага ваяводства, што ляжала па правы бок Дзвіны. Рака больш чым на дваццаць гадоў падзяліла Полацк паміж дзвюма дзяржавамі.

Выправіўшыся ў падарожжа па далучаных землях, у траўні 1780 года імператрыца прыбыла ў Полацк. Тут яна наведала адзіную на той час праваслаўную царкву Богаяўленскага манастыра і сабор Святога Стэфана, дзе ўпершыню ў жыцці прысутнічала на каталіцкім набажэнстве. Завітаць да уніятаў у Сафійскі сабор яе імператарская вялікасць падкрэслена «не изволила». Для Кацярыны сабралі звесткі пра горад і Полацкую губерню (яна існавала ў 1776–1796 гадах). Калі ім верыць, суды «отправляли дела с успехом», у губерні не было ніводнага небяспечнага злачынцы-калодніка, а недаборы па падатках складалі ўсяго 20 рублёў. Чыноўнікі дакладвалі царыцы, што пад яе мудрым кіраўніцтвам «умножилось изобилие и дешевизна в съестных припасах, нищие в богадельнях призрены, а больницы заводятся». Ідылію, праўда, парушылі шматлікія скаргі гараджан на адсутнасць медных грошай і залатых ды срэбных манет на размен асігнацый. Яе вялікасць прыкінула



Тагачасная карыкатура на падзелы Рэчы Паспалітай. Расійская імператрыца Кацярына II правай рукой паказвае на Полацк і цягне да сябе беларускія землі

Кацярына II.
*Невядомы мастак XVIII ст.*



свае магчымасці і адлічыла 500 рублёў на Богаяўленскі манастыр, па 100 – на гарадскія школы, па 50 – на губернскія багадзельні і 320 рублёў – на жабракоў. Не ўсё ж аддаваць фаварытам, якія за адну ноч з гасударыняй маглі атрымаць сто тысяч ды яшчэ і графскі тытул упрыдачу.

У траўні 1791 года ў левабярэжнай частцы Полацка гарэла ілюмінацыя – адзначалася прыняцце соймам Рэчы Паспалітай Канстытуцыі, першай у Еўропе і другой у свеце пасля ЗША. Праз Дзвіну, з расійскага боку, на святкаванне насцярожана глядзелі царскія чыноўнікі і вайскоўцы. Тут канстытуцыю бачылі толькі ў страшных снах.

Полацкая пячатка са старажытным гербам горада. 1791 г.
Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай мяжа паміж ёй і Расіяй прайшла па Дзвіне, падзяліўшы Полацк паміж дзвюма краінамі




У 1793-м адбыўся другі падзел Рэчы Паспалітай, у выніку якога Расія захапіла разам з іншымі тэрыторыямі левабярэжную частку Полацка і ваяводства. Пасля задушэння нацыянальна-вызваленчага паўстання Тадэвуша Касцюшкі і трэцяга падзелу (1795 г.) гістарычны гадзіннік дзяржавы нашых прадзедаў спыніўся. Даўняя мара расійскіх цароў здзейснілася: Беларусь, а разам з ёю Полаччына, стала часткай імперыі, якую трапна называлі жандарам Еўропы і турмой народаў.

Апрача ўсіх іншых новаўвядзенняў на загад Кацярыны II «для упражнения ея в исторических сочинениях» з полацкіх і іншых манастырскіх, царкоўных і прыватных бібліятэк у Пецярбург вывозілі гістарычныя хронікі і архівы найбольш славутых беларускіх родаў. Ці не тады канчаткова згубіліся сляды неацэннага Полацкага летапісу?



«Тройца Старазапаветная». XVIII ст. *Полацкая мастацкая галерэя*



«Узнясенне». XVIII ст. *Полацкая мастацкая галерэя*

# Аб чым нагадвае Чорны афіцэр



Грэнадзёрка.
*Пачатак XIX ст.*

Пад крыламі дзвюхгаловага царскага арла ў Беларусі ўсталёўваліся ўсё больш жорсткія парадкі. Полацк, як і іншыя гарады, пазбавіўся магдэбургскага права і свайго гістарычнага герба. Падаткі ў беларускіх губернях збіралі не ў асігнацыях, як у самой Расіі, а ў звонкай манеце, і яны былі ў некалькі разоў цяжэйшыя.

Беларусаў не прызнавалі за асобны народ. Продкі не мелі нават права на ўласныя імёны і прозвішчы. Адразу пасля захопу ўсходніх беларускіх земляў царскія пісарчукі пазапісвалі Язэпаў «Іосіфамі», Тамашоў – «Фомамі», Жукі перdesigned ператварыліся ў «Жуковых», Кавалі – у «Ковалевых»... Уніятаў, якія тады складалі больш за тры чвэрці беларускага жыхарства і добра ведалі, што яны не палякі і не расійцы, прымусова пераводзілі ў праваслаўе. (Забягаючы наперад, заўважым, што вайна з царкоўнай уніяй скончылася ў 1839 годзе на Полацкім царкоўным саборы. Там была абвешчаная пастанова пра вяртанне беларусаў-грэка-католікаў «в лоно прародительской православной веры, дабы пребывать в послушании Святейшего Правительствующего Всероссийского Синода»).

На змену расфармаванаму новай уладай прафесійнаму войску ВКЛ прышлі невядомыя дагэтуль Беларусі рэкруцкія наборы. Спачатку рэкруты служылі ўсё жыццё, потым «усяго» 25 гадоў. Між іншым, Полацкаму мушкецёрскаму палку належыць галоўная роля ў славутым здабыцці Суворавым Ізмаіла: якраз



Аляксандр I і Напалеон Банапарт.
*Мастак Готліб Кіслінг*



Шмат пабачыў за некалькі стагоддзяў сваёй гісторыі Богаяўленскі сабор

Знакамітая бітва пры Клясціцах паблізу Полацка. Ліпень 1812 г.
*Мастак Петэр Гэс*





Афіцэрскі мундзір лейб-гвардзейца егерскага палка і ківер расійскага гусара



Ківер і мундзір польскага трубача

палачане першыя ўварваліся ў фартэцу. Згадку пра адважных полацкіх мушкецёраў вы сустрэнеце нават у паэме лорда Байрана «Дон Жуан». Хтосьці знаходзіць у гэтым падставу для гонару, але ў сапраўднасці беларусы рабіліся гарматным мясам у захопніцкіх царскіх паходах.

Датычныя Беларусі ўказы і пастановы імперскіх уладаў стракацелі словамі «забараніць», «зачыніць», «не дазволіць». Каланіяльны стан былога Вялікага Княства Літоўскага змушаў многіх патрыётаў пакідаць радзіму. Незадаволеныя былі самыя розныя колы насельніцтва. Вось чаму вайна 1812 года, у адрозненні ад нашых усходніх суседзяў, для Беларусі не была Айчыннай. З Напалеонам звязваліся надзеі на аднаўленне ВКЛ. У беларускіх палках Вялікай арміі французскага імператара ваявалі не меней за 25 тысяч салдат і афіцэраў. Нямала

Загадкавыя і небяспечныя беларускія балоты не раз рабіліся ў ваенныя часы пасткай для чужынцаў



Штурм Полацка расійскімі войскамі 7 кастрычніка 1812 г.
*Мастак Петэр Гэс*





Памятны медаль у гонар графа Пятра Вітгенштэйна, корпус якога прыкрываў шлях з Полацка на Санкт-Пецярбург

сярод іх было і палачан. Але неўзабаве зрабілася зразумелым, што Напалеон вядзе сваю гульню, і надзеі вярнуць незалежнасць пачалі таяць.

У ліпені 1812 года ў Полацк уступілі войскі маршала Нэя, сярод якіх знайшлося шмат аматараў лёгкай здабычы. (Добра, што манахі-базыльяне замуравалі крыж святой Еўфрасінні ў сцяне Сафійскага сабора). Рабункі рашуча спыніў іншы вядомы напалеонаўскі маршал Удзіно, чые войскі перайшлі Дзвіну і занялі Полацк 14 ліпеня.

Шлях на Санкт-Пецярбург прыкрываў расійскі корпус генерала Пятра Вітгенштэйна. Яму ўдалося здабыць важную перамогу паблізу недалёкай ад Полацка вёскі Клясціцы. Удзіно меў 25 тысяч войска і 114 ствалоў артылерыі, Вітгенштэйн – 18 тысяч штыкоў і 108 гармат. Авангардам расійцаў камандаваў папулярны ў войсках генерал-маёр Якаў Кульнеў, дзяцінства якога прайшло ў Віцебскай губерні. 19 ліпеня ён адбіў Клясціцы, захапіў амаль увесь французскі абоз і каля тысячы палонных. Але герой бітвы безразважна адарваўся ад галоўных сіл,



Герой баёў пад Клясціцамі генерал-маёр кавалерыі Якаў Кульнеў па-майстэрску валодаў мастацтвам авангарднага і ар'ергарднага бою. Напалеон назваў яго адным з найлепшых кавалерыйскіх генералаў расійскай арміі




Помнік на беразе ракі Дрысы, дзе загінуў Я. Кульнеў. Радкі з прысвечанага яму верша паэта Васіля Жукоўскага сталі эпітафіяй герою



Такія барэльефы аздабляюць сёння Чырвоны мост цераз Палату, які нагадвае пра падзеі вайны 1812 г.

Мемарыяльная стэла каля Чырвонага маста





Медаль у памяць вайны 1812 г.

пераправіўся праз Дрысу і, трапіўшы ў засаду, быў смяротна паранены. Тымі днямі Банапарт паслаў у Парыж дэпешу: «Адзін з найлепшых афіцэраў расійскай лёгкай кавалерыі генерал Кульнеў забіты пад Дрысаю».

5 жніўня Вітгенштэйн атакаваў Полацк. Бой доўжыўся чатырнаццаць гадзін. Маршал Удзіно атрымаў у ім сваю 27-ю па ліку рану, і яго замяніў Сен-Сір. Горад урэшце застаўся ў руках французаў, за што Сен-Сір атрымаў маршальскае званне. Пасля гэтага на пару месяцаў запанавала адносная зацішша.

У Полацку і вакол яго стала 30-тысячнае напалеонаўскае войска. Жаўнеры займалі вайсковы гарадок на Ніжнім замку. Афіцэры жылі ў дамах мясцовай шляхты. Паміж імі, безумоўна, было шмат высакародных людзей, аднак хапала і тых, хто глядзеў на гаспадароў (хоць тыя належалі да аднаго з імі стану і часта гаварылі на бездакорнай французскай мове) з адценнем пагарды. Паміж фамільнымі партрэтамі маглі вісець кумпякі зарэзаных гаспадаровых вепрукоў. Дзеншчыкі секлі на дровы старадаўнюю мэблю.

Марачы пра вызваленне ад прыгону, сяляне Полацкага краю спачатку сустракалі напалеонаўскіх жаўнераў прыхільна: паказвалі дарогу, разам нападалі на маёнткі верных цару памешчыкаў. Але неўзабаве стасункі сялянства з «французам» змяніліся. Скасаваннем прыгоннага права і не пахла, затое па вёсках, пакідаючы за сабой пустыя хлявы і адрыны, бясконца гойсалі рэквізітары. Сяляне браліся за косы і сякеры. У Полацкім павеце змаганнем з французамі праславіліся партызаны з вёскі Жарцы. (Пасля вайны царскі ўрад узнагародзіў жарцаўскіх мсціўцаў крыжамі і медалямі. Героі палічылі сябе за вольных людзей і адмовіліся ісці



Крамянёвы французскі пісталет. *Пачатак XIX ст.*



Магчыма, якраз такім было полацкае неба ў дзень штурму горада ў 1812 г.




Існуе ідэя аднаўлення помніка ваярам 1812 г., які ўшанаваў бы памяць усіх палеглых на Полаччыне з абодвух бакоў

на паншчыну. Іх пан Жаброўскі меў на гэты конт іншую думку. У дадатак да медалёў ён загадаў усыпаць кожнаму партызану ніштаватую колькасць бізуноў і сам назіраў за экзекуцыяй, прыгаворваючы: «Вось табе вольнасць, а вось табе крыж»).

Увосень у расійскай і французскай стаўках зноў загаварылі пра Полацк. Бітва за горад распачалася 6 кастрычніка, і назаўтра ён быў узяты. Асабліва жорсткія баі ішлі каля адзінага драўлянага моста праз Палату, які з тых часоў называецца Чырвоным. У 1850 годзе ў Полацку ў гонар той перамогі адкрылі 25-метровы манумент. На ўрачыстасці прысутнічаў будучы імператар Аляксандр II, які праз трыццаць гадоў загінуў ад бомбы беларуса-нарадавольца Ігната Грынявіцкага. Помнік зрабіўся адной з найадметнейшых дэталяў гарадскога краявіду, але ў 1932 годзе быў разбураны. Цяпер палачане мараць пра аднаўленне манумента, які мог бы ўшанаваць памяць усіх палеглых на Полаччыне з абодвух бакоў.



гибаютъ. Тако праведный гнѣвъ Божій караетъ поругателей Святыни Его! Внимая съ Отеческимъ чадолюбіемъ и радостнымъ сердцемъ симъ великимъ и знаменитымъ подвигамъ любезныхъ НАШИХЪ вѣрноподданныхъ, въ началѣ приносимъ МЫ теплое и усердное благодареніе Источнику и Подателю всѣхъ отрадъ Всемогущему Богу. Потомъ торжественно отъ лица всего Отечества изъявляемъ признательность и благодарность НАШУ всѣмъ НАШИМЪ вѣрноподданнымъ, яко истиннымъ сынамъ Россіи. Всеобщимъ ихъ рвеніемъ и усердіемъ доведены непріятельскія силы до крайняго истощенія, и главною частію или истреблены или въ полонъ взяты. Всѣ единодушно въ томъ содѣйствовали. Храбрыя войски НАШИ вездѣ поражали и низлагали врага. Знаменитое дворянство не пощадило ничего къ умноженію Государственныхъ силъ. Почтенное купечество ознаменовало себя всякаго рода пожертвованіями. Вѣрный народъ, мѣщанство и крестьяне показали такіе опыты вѣрности и любви къ Отечеству, какіе одному только Рускому народу свойственны. Они, вступая охотно и добровольно въ ополченія, въ самомъ скоромъ времени собранныя, являли въ себѣ мужество и крѣпость приученныхъ къ бранямъ воиновъ. Твердая грудь ихъ и смѣлая рука съ такою же неустрашимостію растерзала полки непріятелей, съ какою, за нѣсколько предъ тѣмъ недѣль, раздирала плугомъ поля. Таковыми наипаче оказали себя подъ Полоцкомъ и въ другихъ мѣстахъ Санктпетербургскія и Новгородскія дружины, отправленныя въ подкрѣпленіе войскъ, ввѣренныхъ Графу Витгенштейну. Сверхъ того изъ донесеній Главнокомандующаго и другихъ Генераловъ съ сердечнымъ удовольствіемъ видѣли МЫ, что во многихъ Губерніяхъ, а особливо въ Московской и Калужской, поселяне сами собою ополчались, избирали изъ себя предводителей, и не только никакими прельщеніями враговъ не были уловлены, но съ мученическою твердостію претерпѣвали всѣ наносимые имъ удары. Часто присоединялись къ посылаемымъ отрядамъ НАШИМЪ и помогали имъ дѣлать поиски и нападенія. Многія селенія скрывали въ лѣса семейства свои и малолѣтныхъ дѣтей, а сами вооружась и поклявшись предъ Святымъ Евангеліемъ не выдавать другъ друга, съ невѣроятнымъ мужествомъ оборонялись и нападали на появляющагося непріятеля, такъ что многія тысячи онаго истреблены и взяты въ плѣнъ крестьянами и даже руками женщинъ, будучи жизнію своею обязаны человѣколюбію тѣхъ, которыхъ они приходили жечь и грабить. Толь великій духъ и непоколебимая твердость всего народа приносятъ ему незабвенную славу, достойную сохраниться въ памяти потомковъ. При таковыхъ доблестяхъ его, МЫ вмѣстѣ съ православною Церковію и Святѣйшимъ Синодомъ и Духовенствомъ призывая на помощь Бога, несомнѣнно надѣемся, что естьли неукротимый врагъ НАШЪ и поругатель Святыни не погибнетъ совершенно отъ руки Россіи, то по крайней мѣрѣ по глубокимъ ранамъ и текущей крови своей почувствуетъ силу ея и могущество. Между тѣмъ почитаемъ за долгъ и обязанность симъ НАШИМЪ всенароднымъ объявленіемъ изъявить предъ цѣлымъ Свѣтомъ благодарность НАШУ, и отдать должную справедливость храброму, вѣрному и благочестивому народу Россійскому. Данъ въ Санктпетербургѣ, въ 3 й день мѣсяца Ноября, въ лѣто отъ Рождества Христова 1812, Царствованія же НАШЕГО во второенадесять.

На подлинномъ собственною ЕГО ИМПЕРАТОРСКАГО ВЕЛИЧЕСТВА рукою написано тако:

АЛЕКСАНДРЪ.

Печатанъ въ Санктпетербургѣ при Сенатѣ Ноября 4 дня 1812 года.

Указ імператара Аляксандра I з паведамленнем пра бітву пад Полацкам

Пасля вайны 1812 года папоўніўся спіс полацкіх прывідаў. Паблізу колішняга Ніжняга замка, у цёмных прысадах вала Івана Грознага, палохаючы закаханыя парачкі, пачала з'яўляцца постаць мужчыны ў мундзіры французскага гусара. Паводле адной з версій, гэта пакутны дух напалеонаўскага афіцэра, атручанага за здраду юнай каханкай з вядомага ў горадзе шляхецкага роду. Іншае тлумачэнне пачуў некалі ў Полацку ўжо знаёмы нам Вацлаў Ластоўскі (памятаеце пра полацкія лабірынты?). Згодна з ім, сваімі начнымі прагулянкамі «Чорны афіцэр» нагадвае пра несупакоеныя душы французаў, пахаваных тут, на беразе Палаты, у брацкіх магілах.



Полацкія закаханыя любілі прызначаць каля гэтага помніка спатканні



Пячатка 2-й артылерыйскай брыгады расійскай арміі. 1812 г.



Святы Антоні Падуанскі. Абраз XVIII ст.
*Полацкая мастацкая галерэя*

# Сталіца езуітаў

Ці ведаеце вы, што гісторыі было заўгодна, каб Полацк стаў у XVIII стагоддзі сусветнай сталіцай знакамітага ордэна езуітаў? Але з гэтае прычыны не трэба палохацца і шкадаваць нашых продкаў.

Сапраўды, яшчэ нядаўна энцыклапедыі дружна называлі езуітаў цемрашаламі, а на старонках гістарычных раманаў сябры Таварыства Ісуса (так афіцыйна называецца езуіцкі ордэн) нястомна плялі інтрыгі, падсыпалі атруту або падсылалі каханак-шпіёнак. Карацей, і ўначы не спалі, каб паболей нашкодзіць. Аднак, зусім не збіраючыся адпускаць айцам-езуітам усіх грахоў, будзем памятаць, што яны зрабілі і шмат карыснага: займаліся дабрачыннасцю, змагаліся з эпідэміямі, адчынялі друкарні, шпіталі і аптэкі. А найперш – стварылі самую перадавую для свайго часу сістэму адукацыі. «Бярыце прыклад з езуіцкіх школ, – пісаў выдатны філосаф Фрэнсіс Бэкан, – бо лепшых не існуе на свеце».

Полацкі езуіцкі калегіум быў адчынены ў 1581 годзе пры падтрымцы вялікага князя і караля Сцяпана Батуры. Таварыства Ісуса вучыла задарма, не патрабавала ад шкаляроў абавязкова быць каталікамі, прымала ў навучанне не толькі сыноў шляхты і духавенства, але і дзяцей гараджан і сялян. У 1585 годзе пры калегіуме быў заснаваны тэатр. Рэпертуар складаўся з п'ес на антычныя і біблійныя тэмы, сюжэты з айчыннай гісторыі. Рэктар уважліва сачыў за яго абнаўленнем, «каб гледачы пазбеглі сумоты».

Гэтыя скляпенні памятаюць галасы генералаў Таварыства Ісуса



Даўнейшыя карпусы Полацкай акадэміі.
*Паштоўка пачатку XX ст.*





Аўтапартрэт В. Ваньковіча. 1840 г.



Адам Міцкевіч на скале Аюдаг. 1827 г. Аўтар гэтага славутага партрэта – выдатны беларускі жывапісец Валенці Ваньковіч вучыўся ў Полацкім калегіуме



У Полацку выкладаў будучы рэктар Віленскага універсітэта астраном з еўрапейскай славай Марцін Пачобут-Адляніцкі. *Мастак Язэп Аляшкевіч*



Полацкія студэнты захапляліся лекцыямі знакамітага паэта і філосафа Мацея Казіміра Сарбеўскага, «хрысціянскага Гарацыя», творы якога ілюстраваў Пітэр Пауль Рубенс

Езуіты ўмелі ўладкоўваць сваё жыццё грунтоўна, рацыянальна і прыгожа. У другой палове XVIII стагоддзя побач са сваім саборам у гонар святога Стэфана (яго аздаблялі абразы, маляваныя славутым Сальваторам Розам), яны збудавалі некалькі дзесяткаў рознапавярховых будынкаў. Тут знаходзіліся келлі для манахаў, бібліятэка, друкарня, кнігарня. У шматлікіх флігелях асталяваліся півоварня з медаварняй, свечны заводзік, пякарня, аптэка, фармацэўтычная лабараторыя. Разам з навучальнымі карпусамі, з разнастайнымі майстэрнямі, з багадзельняй, стайнямі на сорак коней, з батанічным садам – усё гэта было горадам у горадзе, цалкам прыстасаваным для самастойнага існавання. Прасторныя, размаляваныя фрэскамі залы велізарнага трохпавярховага будынка з калонамі далі прыстанак карціннай галерэі, музею, хімічнай лабараторыі, фізічнаму, гістарычнаму, этнаграфічнаму кабінетам і шматлікім аўдыторыям.

У Полацкім калегіуме выкладалі асобы, вядомыя ва ўсёй Еўропе. Шэпцік захаплення прабягаў па студэнцкіх лавах, калі да кафедры падыходзіў філосаф і слынны паэт-лацініст Мацей Казімір Сарбеўскі (1595–1640). Ён першы са славян быў ганараваны на Капіталійскім пагорку ў Рыме лаўровым вянком і названы «хрысціянскім Гарацыем». Яго кнігу лірычных вершаў, што вытрымала пры жыцці аўтара пяць перавыданняў у розных еўрапейскіх гарадах, ілюстраваў Пітэр Пауль Рубенс. Курс рыторыкі чытаў у Полацку сучаснік Сарбеўскага Жыгімонт Лаўксмін, чыя кніга «Практычнае красамоўства» пасля выдання ў нашай краіне яшчэ адзінаццаць разоў выходзіла ў Вене, Мюнхене, Празе, Франкфурце... Выкладчыкам калегіума быў беларус Марцін Пачобут-



Рука Рубенса адразу пазнаецца ў гэтай гравюры да аднаго з выданняў знакамітай «Лірыкі» Сарбеўскага



Выхаванцам Полацкага калегіума і акадэміі быў Ян Баршчэўскі, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, аўтар неўміручага «Шляхціча Завальні».
Ян Баршчэўскі ў Пецярбурзе. *Літаграфія XIX ст. Мастак Р. Жукоўскі*

У гэтым корпусе былой акадэміі размясцілася Полацкая мастацкая галерэя





Партрэт выхаванца мастацкай школы Полацкага езуіцкага калегіума Фёдара Талстога – вядомага расійскага медальера і скульптара. *Мастак Сяргей Заранка*

Прафесар старажытных усходніх моваў Полацкага калегіума Міхэль Квіен. *Другая палова XVIII ст. Партрэт захоўваўся ў карціннай галерэі акадэміі*




Адляніцкі – вучоны-энцыклапедыст, будучы рэктар Віленскага універсітэта, сябар Каралеўскага астранамічнага таварыства ў Лондане.

Такія педагогі выхоўвалі годных вучняў. Полацкіх настаўнікаў з удзячнасцю ўспамінаў беларускі жывапісец Валенці Ваньковіч, аўтар знакамітых партрэтаў Міцкевіча, Напалеона, Пушкіна. Вучыўся ў Полацку вядомы польскі паэт, драматург і гісторык Нікодам Мусніцкі. Вы, напэўна, ужо мелі асалоду чытаць кнігу «Шляхціч Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях», якую сучаснікі захоплена параўноўвалі з казкамі «Тысячы і адной ночы». Яе аўтарам быў выхаванец Полацкага калегіума, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Ян Баршчэўскі. Паралельна з езуіцкімі школамі навучальныя ўстановы царскай імперыі былі настолькі прымітыўныя, што расійская знаць, каб даць дзецям прыстойную адукацыю, часта прывозіла іх у Беларусь. Са сцен Полацкага калегіума, дзе існавала выдатная мастацкая школа, выйшаў, напрыклад, славуты расійскі медальер, скульптар і гравёр Фёдар Талстой.

«Вачыма свайго розуму» называлі езуітаў рымскія папы. Але папу Кліменту XIV гэтыя занадта пільныя вочы надакучылі, і ў 1773 годзе ён, пасварыўшыся з ордэнам, выдаў булу пра яго забарону. У полацкім Задзвінні вялікакняскія рэвізоры апісвалі езуіцкія маёнткі. Тым часам на правабярэжжы, якое ў 1772 годзе было захоплена Расіяй, адбываліся падзеі, на першы погляд, проста неверагодныя. Замест таго, каб выкарыстаць папскую пастанову для выгнання езуітаў, праваслаўная імператрыца Кацярына II давала ім прывілей за прывілеем. Таварыства Ісуса святкавала перамогу над рымскім папам.





Творы Фёдара Талстога са збораў Полацкай мастацкай галерэі



Такімі тэлескопамі карысталіся полацкія астраномы



Колькі бачылі і чулі на сваім вяку гэтыя старадаўнія сходы!



Генерал ордэна езуітаў Тадэвуш Бжазоўскі, пры якім была адчыненая Полацкая акадэмія





Найславуцейшы з полацкіх езуітаў, вучоны-энцыклапедыст Габрыэль Грубэр. Менавіта ён стварыў у Полацкім калегіуме ўмовы для пераўтварэння яго ў вышэйшую навучальную ўстанову з універсітэцкім статусам

Шлях да гэтай перамогі быў досыць просты. Полацкія езуіты першыя прысягнулі імператрыцы, а іх дэпутацыя зачаравала сваёй вучонасцю і манерамі пецярбургскі двор. «Надо сознаться, что эти мошенники – отличные люди, – писала Кацярына. – Нигде еще не смогли устроить что-нибудь подобное их школам». Абараняючы ордэн, імператрыца заваёўвала сімпатыі новых падданых – католікаў і, не трацячы ні рубля, захоўвала на далучаных землях высокаразвітую сістэму адукацыі. Езуіцкія місіі існавалі і ў іншых беларускіх гарадах, але Таварыства Ісуса абрала для сваёй сталіцы менавіта Полацк. Гэтым падкрэслівалася выключная роля горада ў гісторыі беларускай дзяржаўнасці і культуры. Гнаныя прыхільнікі ордэна знайшлі Полацк на картах і рушылі сюды з усяго свету. У іх ліку быў і амерыканскі мільянер Тэнорыа дэ Карваял, які ахвяраваў айцам-езуітам усё сваё багацце. (Дзвінскія берагі замянялі Таварыству Ісуса берагі Тыбра да 1814 года, калі папа Пій VII афіцыйна аднавіў ордэн і ім пачалі зноў кіраваць з Рыма).

Сярод езуітаў, што з'язджаліся ў сваю новую сталіцу, было шмат славутых вучоных, педагогаў, мастакоў, літаратараў. Полацк на нейкі час стаў адным з інтэлектуальных цэнтраў Еўропы, а калегіум перажываў высокі ўзлёт.

Праграма 1796 года сведчыць, што тады ў Полацкім калегіуме вывучалі беларускую, расійскую, французскую і нямецкую мовы, гісторыю, фізічную і палітычную геаграфію, алгебру, тэарэтычную і практычную механіку, эксперыментальную фізіку, касмалогію, оптыку, вышэйшую матэматыку, цывільную і вайсковую архітэктуру, тэорыю жывапісу, этыку і псіхалогію… Пасаду прафесара тэалогіі і архітэктуры займаў таленавіты італьянскі прапаведнік, жывапісец і дойлід Каятан Анджыяліні. Полацкім студэнтам чытаў лекцыі прафесар Сарбонскага універсітэта, гісторык і археолаг Дзідзье Рышардо. Прафесарам калегіума, а затым і генералам ордэна быў выдатны вучоны-энцыклапедыст славенец Габрыэль Грубэр (1740–1805). З яго імем звязанае абсталяванне астранамічнага, фізічнага, мінералагічнага ды іншых кабінетаў,



EMMANUELIS
ALVARI
E SOCIETATE JESU
DE
INSTITUTIONE
GRAMMATICA
LINGVÆ LATINÆ
LIBRI TRES

POLOCIÆ
In Privilegiata à Sua Imperatoria Majestate Typographia Colleg: Soci Jesu,
Anno 1794.



…APHIÆ LATINÆ
…ENDIUM.

…la scribitur, in propriis: …cero, Roma, Tiberis: in …, Princeps, Dux, Magi-… …pio periodorum.

2. In quibusdam dictionibus scribitur dyphtongus æ: ut hæ, hæc, quæ, æs, ædes, æger, æstimo, lætor. In syllaba præ (prætor: precor, preces, prehendo, pretium, prendo, prenso, premo, Presbiter, & hinc proveniantia) & omnibus casibus primæ desinentibus in æ, semper scribitur dyphtongus æ: ut mensæ bonæ.

3. In quibusdam dictionibus scribitur dyphtongus œ: ut comœdia, fœmina, fœdus, pœna, cœpi.

4. In Græcis tantum scribitur y, ph, th: ut Hieronymus, Stephanus, Theologus.

5. Dictionum Syllabæ, cum ab una linea seu versu transitur ad aliam, sic dividendæ, quemadmodum pronuntiantur: vg. o-mnis, ter-ra, cun-ctis; non om-nis, ter-ra, cu-nctis. In dictionibus compositis, præpositiones sunt separandæ a simplicibus: vg. etiam, et-enim, trans-ire.

6. Notæ, quibus Latina & vernacula oratio distingvitur, hæ sunt præcipuæ.
Comma scribitur sic: ,
Duo puncta scribitur sic: :
A2 Me-

Падручнік лацінскай мовы, выдадзены ў 1794 г. у друкарні Полацкага езуіцкага калегіума



Маці Божая
з немаўлём і святой
Даротай. XVIII ст.
*Полацкая мастацкая
галерэя*

а таксама стварэнне карціннай галерэі і пабудаванага па тыпу кунсткамеры музея. Наведнікі галерэі захапляліся творамі Рубенса, выдатным зборам скульптуры, дзвюма тысячамі гравюр вядомых майстроў. Сам Грубэр і яго вучні-механікі былі аўтарамі шматлікіх вынаходак, якія прымушалі гасцей калегіума адчуваць сябе ў сапраўдным царстве дзівосаў. Па музейных залах ездзіў у калясцы механічны Купідон, у краме гандляваў купец-робат. Галоўным дзівам была велізарная механічная галава, якая «гучна, лагічна і з поўным веданнем справы адказвала на любое пытанне, зададзенае на любой мове».

У 1812 годзе Полацкі калегіум стаў акадэміяй з правамі універсітэта. Студэнтаў чакалі тры факультэты: тэалагічны, моў і літаратур, філасофіі і вольных мастацтваў. Пра ўзровень адукацыі, якую яны давалі, сведчыць, напрыклад, тое, што на філалагічным факультэце, апрача сучасных еўрапейскіх моў, выкладаліся лацінская, грэчаская, старажытнаяўрэйская, арабская... У выдавецтве пры акадэміі выпускаліся слоўнікі, падручнікі, навуковыя трактаты, календары і літаратурныя зборнікі на дзесяці мовах. 40 000 тамоў налічвала акадэмічная бібліятэка.






Творы Гарацыя,
выдадзеныя друкарняй
Полацкага калегіума.
1799 г. Гэтая друкарня,
дакладней выдавецтва,
выпускала літаратуру на
дзесяці мовах

Ілюстраваны
літаратурна-навуковы
часопіс акадэміі
«Полацкі месячнік»





Больш за два стагоддзі Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр належаў ордэну езуітаў. Тут была летняя рэзідэнцыя езуіцкіх генералаў і іх пахавальня. Улетку ў манастыры адпачывалі выхаванцы калегіума і акадэміі

Акадэмія мела 700 студэнтаў і 40 прафесараў і абяцала зрабіцца канкурэнткай Віленскаму універсітэту. З полацкіх аўдыторый пачалі свой шлях да славы беларускі гісторык, археолаг і этнограф Канстанцін Тышкевіч, астраном і філосаф Якуб Накцыяновіч. Дыплом акадэміі атрымаў Ян Баршчэўскі. Пералік славутых імёнаў мог быць шматкроць большым, але Полацк заставаўся універсітэцкім горадам усяго восем гадоў. Расійскія ўлады хутка разгледзелі ў навучальных установах Беларусі небяспечныя «рассадники вольнодумия» і рыхтавалі расправу. Полацкай акадэміі было наканавана сысці з гістарычнай сцэны першай. Указ пра яе закрыццё выйшаў з царскай канцылярыі ў 1820-м. Усе сябры Таварыства Ісуса павінны былі пакінуць межы імперыі.

Педагогі і выхаванцы акадэміі рассеяліся па свеце і ўнеслі прыкметны ўклад у культуру іншых краін і народаў. Выкладчык тэалогіі Францішак Дзеружынскі, да прыкладу, заснаваў сістэму каталіцкіх школ у ЗША. Ягоны калега філосаф Вінцэнт Бучынскі стаў прафесарам Лювенскага універсітэта ў Бельгіі.



Гэты старадаўні масток злучае Верхні замак з Запалоццем




Універсітэцкая карта Еўропы з кнігі нямецкага географа і картографа Себасцяна Мюнстэра «Касмаграфія». 1598 г.





Всемилостивѣйшая Государыня!

Рапарт генерал-губернатара Беларусі графа Чарнышова Кацярыне II пра пачатак заняткаў у Полацкім езуіцкім калегіуме і ўвядзенні выкладання расійскай мовы

Бясцэнныя полацкія скарбы былі разрабаваныя. Музейныя зборы і найлепшыя творы карціннай галерэі паехалі ў пецярбургскую Акадэмію мастацтваў. Полацк развітаўся з найбагацейшай бібліятэкай і архівам акадэміі, дзе, магчыма, яшчэ захоўваўся Полацкі летапіс ці яго копія. Царская камісія ўчыніла сапраўдны пагром у навучальных кабінетах. Яе чыноўнікі знішчылі патаемнае памяшканне з сістэмай правадоў, адкуль механікі кіравалі сваімі робатамі, у тым ліку і механічнай галавой, што давала мудрыя парады на ўсіх мовах. Саму галаву проста выкінулі на сметнік. Калі верыць Яну Баршчэўскаму, яна вандравала па Полаччыне з дому ў дом, палохаючы гаспадароў, што імкнуліся збыць галаву суседзям. Падрабязней пра гэта можна даведацца з казачна-філасофскай аповесці «Драўляны Дзядок і кабета Інсекта», якая ўвайшла ў кнігу «Шляхціч Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях».

Сёння Полацк – зноў універсітэцкі горад. На самым пачатку XXI стагоддзя наша сучасная альма-матэр атрымала некалькі будынкаў былой акадэміі. Няхай музы хутчэй вяртаюцца ў старадаўнія муры. І найперш – муза Кліо, бо першымі «навасёламі» стануць студэнты гістарычнага факультэта.

Магчыма, у аўдыторыях, залах і гулкіх заблытаных пераходах будучыя гісторыкі сустрэнуцца не толькі са сваімі выкладчыкамі, але і з ранейшымі гаспадарамі гэтых карпусоў. Ходзяць упартыя чуткі, што ў колішнім «езуіцкім гарадку» часам з'яўляецца постаць Габрыэля Грубэра. (Гэта яму належала ідэя пераўтварэння калегіума ў акадэмію). Менш вядомы ягоны калега айцец Папэ, якому калісьці быў даручаны нагляд за вінным склепам. Там стаялі велізарныя дубовыя бочкі з хмельным мёдам-трайняком, кухаль якога вылечваў любую прастуду. Айцец Папэ, дакладней ягоны прывід, і цяпер трымаецца паблізу сутарэнняў, а ўбачыць яго найперш маюць шанцы тыя, хто аддае перавагу занадта моцным напоям.

ПОЛОЦКЪ. Николаевскій соборъ.



# Полацкія кадэты




Полацкі кадэцкі корпус.
*Паштоўка пачатку XX ст.*



У Полацкім ліцэі піяраў чытаў лекцыі гісторык і грамадскі дзеяч, аўтар крылатага закліку «За нашу і вашу свабоду!» І. Лялевель

Будынкі былой езуіцкай акадэміі царскія ўлады перадалі іншаму каталіцкаму ордэну – піярам, якім дазволілі адкрыць свой ліцэй. Але вальнадумныя ідэі хутка звілі гняздо і там. У 1822 годзе ў Полацкім ліцэі чытаў лекцыі польскі гісторык і грамадскі дзеяч Іаахім Лялевель, якому належыць звернуты да дэмакратаў Расіі і былой Рэчы Паспалітай заклік: «За нашу і вашу свабоду!» Неўзабаве паліцыя раскрыла сярод выхаванцаў піяраў таемную арганізацыю. Яна была філіяй славутага віленскага таварыства філаматаў, куды ўваходзіў Адам Міцкевіч з сябрамі. Педагогаў абвінавацілі ў «ненадежном образе мысли и в воспитании в молодых белорусах ненависти к русскому правительству». Не паспела закончыцца следства, як на карчме ў самым цэнтры горада ліцэісты вывесілі вершы з заклікам скінуць царскае ярмо. Не трэба здзіўляцца, што ў 1830-м піярскі ліцэй спасціг лёс акадэміі.

Праз пяць гадоў старыя сцены зноў пачулі юначыя галасы: тут быў адчынены Полацкі кадэцкі корпус. Першы набор складаўся з 54 падлеткаў ва ўзросце ад дванаццаці да чатырнаццаці гадоў. Кіраўніцтва раіла выкладчыкам звярнуць увагу на правільнасць чытання і маўлення, «так как большинство поступивших детей из губерний белорусских с грубым местным наречием».

Улада разлічвала выхоўваць з кадэтаў верных слуг «царя и Отечества». Але падзеі 1863 года, калі ў Беларусі ўспыхнула новае нацыянальна-вызваленчае паўстанне, засведчылі, што ў Полацкім корпусе жыве дух патрыятызму. Шмат хто з выхаванцаў не вярнуўся з калядных вакацый і далучыўся да паўстанцаў. Наогул жа за 1863–64 навучальны год выбыў 171 кадэт пры агульнай іх колькасці 289. Ці не з гэтай прычыны ў 1865 годзе Полацкі кадэцкі корпус быў пераўтвораны ў вайсковую гімназію, якая праіснавала да 1882-га? Улады як чорт крыжа баяліся праяваў сепаратызму і сачылі, каб на чале корпуса не апынуўся прадстаўнік мясцовага дваранства. У Беларусі нарадзіўся толькі трынаццаты па ліку дырэктар генерал-маёр Мадэст Чыгір.

Полацкі кадэцкі корпус даў адукацыю і выхаванне больш чым тром тысячам афіцэраў расійскай арміі. Далёка не ўсе з іх марылі прысвяціць жыццё абароне праваслаўнага царскага трону. Шляхціч Андрэй Патабня перайшоў на бок паўстанцаў 1863-га і загінуў у баі з карнікамі пад

Паўстанец з-пад Полацка.
*Фота 1863 г.*
Дзесяткі полацкіх кадэтаў узялі тады ў рукі зброю, каб змагацца за вызваленне роднага краю






Полацкі кадэцкі корпус. *Паштоўка пачатку XX ст.*



Царскія ўлады давялі Сафійскі сабор да заняпаду. У 1910-я гады набажэнствы ў ім адбываліся на працягу года адзін толькі месяц



Маці Божая Замілаванне. Адзін з унікальных абразоў з Полацкага Сафійскага сабора, створаных у сярэдзіне XVIII ст.

Кракавам. Яшчэ адзін гадаванец корпуса гісторык і археолаг Язэп Стаброўскі, унук паўстанца 1863 года, заснаваў Слонімскі гістарычна-краязнаўчы музей. Полацкі кадэт Ян Тарасевіч завяршыў свае вайсковыя штудыі паступленнем... на фартэп'янны, а затым на кампазітарскі факультэт Пецярбургскай кансерваторыі. Талент бліскучага піяніста і здольнага кампазітара зрабіў яго сябрам Сяргея Рахманінава і Яна Сібеліуса. А свае першыя музычныя творы Тарасевіч напісаў на вершы класіка нашай літаратуры Максіма Багдановіча.

Вежы Сафійскага сабора, корпусныя калідоры і класы снілі сакратар Расійскай акадэміі навук, аўтар кніг пра вайну 1812 года і Крымскую кампанію Мікалай Дубровін, выдатны феналаг, палачанін па нараджэнні Дзмітрый Кайгародаў. У корпусе вучыўся аўтар вядомага гістарычнага рамана «Порт-Артур» Аляксандр Сцяпанаў. А камандаваў сухапутнай абаронай абкружанага ў руска-японскую вайну Порт-Артура гадаванец Полацкай вайсковай гімназіі генерал Раман Кандраценка, якога лічылі адным з найталенавіцейшых военачальнікаў таго часу. На ягоную гібель адгукнулася ўся сусветная прэса.

Жыццё кадэтаў не абмяжоўвалася ўрокамі вайсковай падрыхтоўкі. Сярод забароненых, а таму і найбольш звабных заняткаў на першых месцах былі небяспечныя вылазкі ў полацкія лабірынты. Мяркуючы па ўспамінах былых выхаванцаў корпуса, бадай, кожны з іх браў удзел у спробах дабрацца падземнымі хадамі-лёхамі да Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра. Здаецца, гэта ніколі не ўдавалася, і тады кадэты ішлі на паклон да святой гарадскімі вуліцамі. Лічылася, што высокі бал на цяжкіх экзаменах можна было атрымаць, толькі шчыра памаліўшыся Еўфрасінні.




Полацкія кадэты



Строй беларускай шляхты Полацкага ваяводства. *Рэканструкцыя Р.Долбіка*



Удзельнік Першай сусветнай вайны, выпускнік Полацкага кадэцкага корпуса Язэп Стаброўскі з жонкай. *Тагачаснае фота*

Узімку на корпусным пляцы залівалі каток, на якім граў гарадскі аркестр. На пачатку 1900-х гадоў кадэты ўдзельнічалі ў першых футбольных матчах. Адмысловай формы гульцы не мелі, і адна з каманд, каб адрознівацца ад другой, завязвала цераз плячо белыя ручнікі.

Аматарам добра пад'есці, напэўна, будзе цікава пазнаёміцца з захаваным у дакументах абедзенным меню полацкіх кадэтаў за 1841 год. Панядзелак: суп бульбяны, адбіўная з ялавічыны, пірагі са свежай капустай і яйкамі. Аўторак: капуста, ялавічына пад соусам з бручкі і морквы, кнышы (ватрушкі). Серада: локшыны, ялавічына пад бульбяным соусам, пірагі з варэннем. Чацвер: суп манны, смажаная ялавічына з гуркамі, пірагі з грэцкай кашай. Пятніца: суп бульбяны, адбіўная з ялавічыны, слаёныя пірагі з капустай і яйкамі. Субота: суп з каранёў, ялавічына з бульбай, рысавая каша з маслам. Нядзеля: капуста і да яе пірагі з грэцкай кашай, смажаная ялавічына з гуркамі, слаёныя пірагі з варэннем. Аўтар выдадзенай ў 1910 годзе кнігі «Полоцкій кадетскій корпус» падпалкоўнік В. Вікенцьеў называе гэтае меню «малоразнообразным». Трэба меркаваць, што недахоп быў выпраўлены. Дарэчы, у вялікай сталоўні са скляпяністай столлю яшчэ з часоў езуітаў вісела велічэзная копія «Сікстынскай мадонны» Рафаэля, што нязменна выклікала раздражненне ў корпусных праваслаўных святароў.




Гэты кішэнны нямецка-расійскі слоўнік мог належаць камусьці з полацкіх кадэтаў

Калі пачалася Першая сусветная вайна, корпус быў эвакуяваны (1-я рота ва Уладзікаўказ, 2-я – у Маскву, 3-я – у Сумы), а ў яго сценах размясціўся вайсковы шпіталь. У 1919 годзе белы генерал Дзянікін сабраў на Каўказе полацкіх і ўладзікаўказскіх кадэтаў і аднавіў змешаны корпус, які на пачатку 1920-га перавялі ў Крым. Пад час эвакуацыі белых войскаў з Крыму пра выхаванцаў корпуса неяк забыліся, але праз колькі дзён у канстанцінопальскую гавань увайшлі дзве вялікія баркі з полацкімі і ўладзікаўказскімі кадэтамі. У штармавое восеньскае надвор'е яны прыйшлі на вёслах з Севастопаля. Корпус распачаў заняткі ў Югаславіі, аднак фінансавая дапамога былых саюзнікаў царскай Расіі хутка скончылася, а разам з гэтым завяршылася і гісторыя навучальнай установы. Сёй-той з былых «палачан» рознымі шляхамі вярнуўся на радзіму, а большасць закончыла жыццё на чужыне.




Выхаванца Полацкай вайсковай гімназіі генерала Рамана Кандраценку лічылі адным з найталенавіцейшых военачальнікаў пачатку XX ст.



Карабін «маўзер» узору 1898 г. быў на ўзбраенні многіх армій

# На парозе XX стагоддзя



Былая лютэранская кірха. Сёння ў гэтым нэагатычным будынку XIX ст. краязнаўчы музей.

Жыццё горада, як і жыццё чалавека, можна ўявіць раманам – з гераічнымі, будзённымі, трагічнымі і камічнымі старонкамі. Пасля закрыцця акадэміі і піярскага ліцэя полацкі раман стаў правінцыйным. Але гэта зусім не азначае, што ў ім не адбывалася нічога цікавага. Горад, хоць і быў асуджаны царскімі ўладамі на ролю павятовага, не забываў былой славы, не губляў гонару.

Больш за тры сотні палачан сталі ўдзельнікамі паўстання 1831 года. Найбольш чынныя дзеянні інсургентаў разгарнуліся ў суседнім з Полацкам Дзісненскім павеце. У паўстанцкі камітэт, што сабраўся ў мястэчку Лужкі, увайшлі прадстаўнікі вядомых родаў былога Полацкага ваяводства: прызначаны начальнікам артылерыі Міхал Храпавіцкі, Антон і Язэп Корсакі, Алейзі Буйніцкі. Камітэт заклікаў да зброі, і праз дзесяць дзён у Лужках стаяла тры тысячы гатовых да бою шляхцічаў і сялян. Ім удалося заняць і некалькі дзён утрымліваць Дзісну.

У змагарным 1863-м у блізкіх полацкіх ваколіцах, каля Янова і Бікульнічаў, былі лагеры паўстанцкага атрада Отана Грабніцкага. Туды, абыходзячы ўначы заставы, прабіраліся дзесяткі полацкіх кадэтаў і гараджан. На вуліцах з'явіліся людзі, дэманстратыўна апранутыя ў даўнейшыя шляхецкія строі з чатырохвугольнымі шапкамі-канфедэраткамі. Напалоханае кадэцкае начальства рыхтавалася да штурму. У Полацк увайшлі роты рэзервовага Галіцкага палка расійскай арміі.



Казка зімовага Полацка

Царызм жорстка расправіўся з беларускімі паўстанцамі, якія, бароннячы сваю чалавечую і нацыянальную годнасць, кінулі выклік велізарнай імперыі. Каб пазбегнуць палону, застрэліўся паручнік Баляслаў Кульчыцкі, што камандаваў атрадам у Юхнавіцкіх лясах на поўнач ад горада. Сярод тысяч засуджаных да высылкі быў і народжаны пад Полацкам шляхціч Стэфан Грынеўскі, бацька будучага пісьменніка Аляксандра Грына. Тысячы сумленных і таленавітых сыноў Беларусі былі вымушаныя пакідаць радзіму. У Аўстра-Венгрыі, Нямеччыне, Францыі і Егіпце пісаў вершы Вайніслаў Савіч-Заблоцкі, які падпісваўся псеўданімам Гаўрыла Полацкі. Яго пяро вывела ўсхваляванае прызнанне: «Дзвіна, Дунай маёй Айчыны, самая дарагая рэчка на свеце, табе я абавязаны рытмам маіх песняў!»




Вуліца Спасаўская. *Паштоўка пачатку XX ст.*



Аптэкарская насценная шафка канца XIX–пачатку XX ст.

Мы перагарнулі некалькі гераічных старонак, а цяпер спыніліся на этнаграфічнай. У IX томе выдадзенага ў 1905 годзе «Полного географического описания нашего Отечества» нацыянальны характар нашага народа вызначаўся наступным чынам: «Белорус отличается гостеприимством, склонностью к веселию и доверчивостью, хотя ее можно и не сразу снискать. Отсутствие злопамятности в белорусе резко бросается в глаза всякому, кто с ним сталкивается...» Магчыма, вы захочаце паспрачацца, але, здаецца, што да характару палачан – і ў мінулыя стагоддзі, і цяпер – трэба дадаць яшчэ некалькі істотных штрыхоў. Палачане заўсёды мелі большую, чым іншыя беларусы, схільнасць да іроніі і гумару, якія дзіўным чынам спалучаюцца ў іх з балцкай стрыманасцю. Жыхары нашага Прыдзвіння спрадвеку любілі і ўмелі смачна пад'есці і ўзяць



Напачатку тэлефон здаваўся амаль што цудам свету




Полацк. *Паштоўка часоў Першай сусветнай вайны*

Так выглядаў Полацк з вышыні птушынага палёту, а дакладней – з вежаў сабора Святога Стэфана на мяжы XIX і XX стст.




За гэтай канторкай сто гадоў таму падлічваў свае прыбыткі ўладальнік аптэкі Баярынблюм


Вам не захацелася выпіць тут гарбаты? Інтэр'ер дома стацкага саветніка Мікалая Ласковіча


Гадзіннік, які ужо не адно стагоддзе паказвае полацкі час

з паважнай прычыны чарку, але пры гэтым не напіцца да божае моцы. А яшчэ душа палачаніна з пракаветных паганскіх часоў была схільная да веры ў дзівосы. Гэта выдатна засведчыў пісьменнік Ян Баршчэўскі, пяро якога натхнялася казкамі, паданнямі і павер'ямі Прыдзвінскага краю. Героямі яго твораў, якія чыталі ў полацкіх дамах у XIX стагоддзі, былі злая чараўніца Белая Сарока і пярэваратні-ваўкалакі, каціны кароль Варгін і галоўны беларускі чарнакніжнік пан Твардоўскі, што меў у Полацку сваю рэзідэнцыю.

У тыя самыя часы характар жыхароў Полаччыны, іх святы і звычаі зачаравалі расійскага падарожніка і мастака І. Захарава. Зусім, на першы погляд, нечакана ён знайшоў падабенства нашага краю з Італіяй, а ўбачаныя на полацкім кірмашы танцы ён параўнаў у дарожных нататках з неапалітанскай тарантэлай. Сафійскі і Мікалаеўскі (Св. Стэфана) саборы здаліся яму пабудаванымі па малюнках Мікеланджэла. І наогул у Полацку, пісаў падарожнік, «забываеш, што ты ў павятовым горадзе, а не ў сталіцы».

Прыгажосць Полацка і яго ваколіц назаўсёды ўзяла ў палон душу выдатнага беларускага жывапісца Івана Хруцкага, аўтара бліскучых партрэтаў і нацюрмортаў, што ўпрыгожваюць цяпер музеі розных краін.



Многія куткі старой гарадской забудовы амаль без зменаў захаваліся да гэтага часу




Аўтапартрэт Івана Хруцкага. Большую частку жыцця прызнаны майстар нацюрморта, партрэта і пейзажа пражыў у маёнтку Захарнічы паблізу Полацка


Іван Хруцкі. Партрэт жонкі з кветкамі. 1838 г.

Недалёка ад горада, у вёсцы Захарнічы, мастак збудаваў сабе паводле ўласнага праекта сядзібу і пасадзіў сад. У сваім захарніцкім доме ён пражыў большую частку жыцця. Па суседству стаяў маёнтак Навагуршчына, дзе гаспадарыў Ксаверы Бянбноўскі, былы капітан паўстанцкага войска Касцюшкі. На дваццаць гадоў маладзейшая суседава дачка Ганна пайшла з Хруцкім пад вянец і стала яго музай.

Згадаем яшчэ некалькі імёнаў, што ўвайшлі ў энцыклапедыі.

Выхаванцам Полацкай настаўніцкай семінарыі, адчыненай у 1872 годзе, быў паэт Янка Журба. (Да літаратурных заслуг Журбы належыць і той факт, што менавіта ён пераканаў пісаць па-беларуску будучага аўтара «Міколкі-паравоза» Міхася Лынькова). У 1885 годзе ў Полацку пачаўся жыццёвы шлях кінарэжысёра, заснавальніка беларускага кінематографа Юрыя Тарыча. Тады на полацкіх вуліцах можна было сустрэць і сур'ёзнага шкаляра Сяргея Сахарава, будучага фалькларыста і этнографа, сакратара Віцебскай вучонай архіўнай камісіі, дырэктара Дзвінскай (Даўгаўпілскай) беларускай гімназіі.

Дакументы першага ўсерасійскага перапісу 1897 года паведамляюць, што сярод палачан ва ўзросце ад дзевяці да сарака чатырох гадоў пісьменных было 39,6 працэнта. Мала гэта ці многа? Сярэдні паказчык па беларускіх губернях – 32,6, агульнаімперскі – 28.


Якое стагоддзе ў гэтым дворыку?


Паэт Янка Журба пачаў шлях у літаратуру ў Полацку

Настаўніцкая семінарыя.




Так апраналіся на святы жыхары нашага Прыдзвіння на пачатку XX ст. *Рэканструкцыя М. Раманюка*





Першая полацкая электрастанцыя дала ток у 1913 г.



Сёстры міласэрнасці. Полацк часоў Першай сусветнай вайны

При канцы XIX стагоддзя каля паловы полацкага насельніцтва складалі яўрэі. У 1891 годзе апошні раз глядзела з вакна цягніка на свой родны горад яўрэйская дзяўчынка Марыя, якая разам з бацькамі ехала ў ЗША. Там яна здабыла вядомасць як пісьменніца Мэры Энцін. Адна з яе кніг – «Зямля запаветная», якая выйшла ў 1912 годзе ў Бостане і Нью-Йорку, – цалкам аўтабіяграфічная. Яе чытачы даведаліся пра заакіянскі беларускі Полацк, убачылі на фотаілюстрацыях сілуэты горада, аблічча яго жыхароў, зімовую Дзвіну.

А недалёкае ад Полацка мястэчка Лужкі праславіў на ўвесь свет народжаны там Эліэзер Бен-Іегуда. Дзякуючы яму яўрэі адрадзілі іўрыт у якасці жывой размоўнай мовы, што стала пазней дзяржаўнай мовай Ізраіля.



У камяніцы канца XVII ст. (так званым «дамку Пятра І») размясціўся адзін з полацкіх музеяў, экспазіцыя якога атрымала назву «Прагулка па Ніжнепакроўскай». Тут адноўленыя інтэр'еры крам, аптэк, мяшчанскіх і купецкіх дамоў





Абклад абраза
«Георгі Пераможца». XIX ст.
*Полацкая мастацкая галерэя*

У 1865 годзе статыстыка налічвала ў Полацку ўжо 18 «заводаў» – сем гарбарняў, тры піваварні і тры вапнярні, тытунёвая і свечкавая фабрыкі, цагельня, медаварня і бровар. Праз паўстагоддзя, напярэдадні Першай сусветнай вайны, самым буйным прадпрыемствам будзе лесапільна-бандарны завод з сотняй рабочых. Нашмат адстануць ад яго лесапільня (45 работнікаў), паравы млын і тытунёва-махорачная фабрыка (па 30). А вось чыгунка з яе майстэрнямі дасць заробак без малога тысячы палачан. Штодзённымі пасажырскімі цягнікамі горад будзе звязаны з Пецярбургам, Варшавай, Вільняй, Дзвінскам, Рыгай, Арлом. У 1890-я гады Дзвіна, а разам з ёю і горад, прывыкнуць да паравога флоту.



Вакно ў свет з келлі
Спаса-Еўфрасіннеўскага
манастыра

Разам з тым палачане не пакідалі традыцыйных заняткаў. Простыя гараджане па-ранейшаму трымалі коз, авечак, кабанчыкаў і кароў. У панскіх хлявах побач з мясцовымі кароўкамі жавалі жуйку пародзістыя халмагоркі і галандкі, капалі капытамі зямлю тырольскія быкі. З прыгарадных вёсак масла адпраўлялі ў Рыгу і Санкт-Пецярбург. На агародах нічога новага, хіба што апрача бульбы, з часоў сярэдневечча не з'явілася. Ва ўраджайныя гады яблыкі і вішні на полацкіх кірмашах прадавалі вазамі. У багатых прыгарадных маёнтках апроч садоў былі аранжарэі, дзе паспявалі абрыкосы, персікі, вінаград, лімоны і апельсіны. Калі будзеце бачыць гэтыя плады на дзівосна жывых нацюрмортах Івана Хруцкага, ведайце, што ўся садавіна вырасла на полацкай зямлі.

Куток вуліцы
Ніжне-
пакроўскай





Мяркуючы па ўсім,
бакалейны гандаль у полацкага
купца Мінца ішоў нядрэнна.
*Музей «Прагулка па
Ніжнепакроўскай»*



Гэтаму дому з адметным фасадам больш за сто гадоў




Полацкая жаночая гімназія



У 1916 г. на вайсковую службу ў Полацк прыбыў Янка Купала

Шмат хто з палачан працягваў займацца паляваннем, якое тады яшчэ не зусім ператварылася ў спорт. Цяжка даць веры, але дакументы сведчаць, што ў другой палове XIX стагоддзя мядзведзяў у лясах вакол Полацка вадзілася столькі, што, калі за адну аблаву здабывалі меней за трох касалапых, гэта лічылася няўдачай. Мы вось проста кажам «мядзведзь», а прыдзвінскія паляўнічыя адрознівалі тады тры пароды: мурашніка, аўсяніка і сцярвятніка. Палявалі таксама на ваўкоў, рысяў, дзікоў, ласёў. Віцебская губерня за год адпраўляла Дзвіною ў Рыгу больш за 200 пудоў ласіных шкур і 15 пудоў рагоў.

Дзе паляванне, там і рыбалка. Гісторык і краязнаўца Аляксей Сапуноў у сваёй выдадзенай у 1893 годзе кнізе «Река Западная Двина» паведамляе, што сярэдні дзвінскі сом важыць 3–3 3/4 пуда. Самоў прадзеды сённяшніх палачан лавілі сеткамі або вялікім кручком на моцным шнуры. Прынадаю была рыба, кавалкі мяса і ўлюбёны саміны ласунак – пячонка. Трапіўшы на кручок, трохпудовая рыбіна вазіла рыбака з лодкай добры дзесятак вёрст уніз і ўверх па рацэ. Тагачасныя самы ўяўляюцца нечым накшталт акул: яны пачуваліся так упэўнена, што і самі былі не супраць зласціць чалавека. Газеты, напрыклад, пісалі, як у сутоку Дрысы і Дзвіны сом пацягнуў на дно дваццацігадовую купальшчыцу, якую ледзьве выратавалі.



АТТЕСТАТЪ

Атэстат гімназісткі Вольгі Савіцкай. 1903 г.



Тут няспешна праплывала жыццё некалькіх пакаленняў палачан



Званок, які абвяшчаў пра пачатак урокаў у жаночай гімназіі



Цяпер у старасвецкай камяніцы Музей традыцыйнага ткацтва Беларускага Паазер'я

«Лещ, – піша А. Сапуноў, – водится во множестве, достигая до 2 футов длины и до 18 фунтов весу». У Дзвіне і ў яе прытоках жыравалі «жывасцёры» (жэрахі), што бывалі вагою да 20 фунтаў. Шчупакі дасягалі пудовай вагі. Лавілі іх, апрача вядомых нам снасцяў, яшчэ і шастамі з пятлёй... Сёння чытаеш такія звесткі, быццам фантастычны раман.

Полацкая кухня вартая асобнай кнігі. Каб даць уяўленне пра яе багацце, згадаем хоць некалькі страў, якія, магчыма, нідзе больш не сустракаліся і якія варта было б адрадзіць у сучасных гарадскіх кавярнях і рэстаранах. Напрыклад, малочны суп с ляшчом (без костак). Або неверагодна смачны дэсерт, які мы, полацкія хлапчукі, паспелі пакаштаваць у дзяцінстве – халодная вараная бульба з брусніцавым варэннем. Прычым брусніцы павінны быць звараныя з палавінкамі груш або морквін, што ператвараліся ў сапраўдны мармелад.

Колькі слоў пра напоі – моцныя і не вельмі. Найбольш папулярным з іх у дамах простых палачан на пачатку мінулага стагоддзя заставаўся хлебны квас. Найлепшым лічылі квас насычанага чырвонага колеру, зроблены на падсмажаных сухарах. Гатавалі квас таксама з буракоў, бярозавіку, а яшчэ – «калінавік», «бруснічнік», «журавіннік», «рабінавік». З адборнай антонаўкі гаспадыні выраблялі яблычны квас. У заможных дамах пілі гарбату і каву, у бяднейшых заварвалі ліпавую квецень, мяту, святаяннік, чабор. Рэдзька, хрэн, мёд і соль служылі асноўнымі кампанентамі рытуальнага прыдзвінскага напою – хрэсьбіннага збіценю, які павівальная бабка падносіла шчасліваму бацьку дзіцяці.

У XX стагоддзе Полацк уступіў 25-тысячным горадам, які захоўваў сваё гістарычнае аблічча. Даведнік, выдадзены ў 1910 годзе з нагоды вяртання на радзіму мошчаў святой Еўфрасінні, паведамляе пра тры манастыры і больш за два дзясяткі храмаў розных канфесій. Але ў горадзе ўсё больш адчуваўся подых новага часу. Падарожнік мог спыніцца тады ў адной з трох полацкіх гасцініц: «Віленскай», «Славянскай» ці ў «Гранд-гатэлі», або ў мэбляваных пакоях, па сутнасці, маленькіх гатэльчыках, якіх налічвалася дванаццаць. Былі тут і свая «Еўропа», і свае «Лондан», «Парыж» і «Метраполь». У цэнтры можна было з прыемнасцю гуляць па чыстым бруку і тратуарах-ходніках, разглядаючы адметныя адна-, двух-, зрэдку трохпавярховыя мураванкі (у адной з іх цяпер дзейнічае музей, які так і называецца «Прагулка па Ніжнепакроўскай»). Побач з імі сапраўднымі хмарачосамі выглядалі гмахі кадэцкага корпуса. Кожная цэнтральная вуліца завяршалася сваёй дамінантай. Спасаўская выходзіла на дамініканскі касцёл, Віцебская – на Мікалаеўскі сабор з помнікам 1812 года перад ім, у перспектыве Верхнепакроўскай добра праглядалася Сафія.

Праграма спектакля «Модны шляхцюк» паводле п'есы Каруся Каганца ў пастаноўцы беларускай трупы Ігната Буйніцкага



1910

Г. ПОЛОЦК

У ГАРАДЗКІМ КЛЮБІ

ПРАГРАМА

Беларускаго спэктакля с канцэртным аддзелам 25го верасьня (сентября) 1910 году

I АДДЗЕЛ.

„МОДНЫ ШЛЯХЦЮК"

Камэдыя К. КАГАНЦА у 1 акці с танцамі і са спевамі.

АСОБЫ:

1) Гаспадар Ян.
2) Якуб, сват Пранцішка.
3) Ганна, дачка Яна.
4) Пранцішок, модны шляхцюк
5) Андрэй, сват Ігнася.
6) Ігнась, жаніх Ганны.
7) Юрка, паробак.
8) Пiлiп паробак Яна.

ГОСЬЦІ І МУЗЫКАНТЫ

Дзеецца у Янавай хаці

ПЕРАРЫУ 15 МІНУТ

II АДДЗЕЛ.

Хор прапяе:

1) Чамуж мне не пець
2) Падушэчка
3) Ах ты дуй
4) Гуси
5) Баба раці варыла

ПЕРАРЫУ 10 МИНУТ

III АДДЗЕЛ.

Сьпевы:

1) Грайка—словы. М. Крашеукі — Заспевае
2) Вясковым Кабетам-словы яго же — п. Я. Хвецаціст

ДЭКЛАМЦІЯ:

1) Чагоб я папеу — вершы Я. Купалы. скажэ п. Шнайка
2) Хоць ты сэрцэ лопні трэсьні
3) Наумекі і лекі — вершы А. Пауловіча скажэ п. В. Буйніцка
4) Што пяць верст
5) Неман—Якуба Коласа — скажэ п. А. Б.
6) Край мой радзімый-А. Богданов.

ПЕРЕРЫУ 10 МІНУТ

IV АДДЗЕЛ.

Беларускіе танцы (на сцэні):

1) Юрка
2) Мельнік
3) Гиенаш
4) Лявоніха
5) Качан

Пасля спэктаклю ТАНЦЫ, лятучая почта, конфэцці сэрпянтын і т. п.

Атветственны Распарадзіцель I. БУЙНИЦКИЙ.

...разрешено... Тип. БЛЯЧКО




Прыкладна такія камеры былі ў першых полацкіх фатографаў



Полацкія вокны

Даведнік, выдадзены з нагоды вяртання ў Полацк мошчаў святой Еўфрасінні, даўно стаў бібліяграфічным рарытэтам




На гэтых вуліцах у 1915 годзе з'явіўся, палохаючы прахожых і конныя экіпажы, першы аўтамабіль. На два гады раней дала ток першая электрастанцыя. Напярэдадні Першай сусветнай вайны горад меў тры кінатэатры, самы вялікі з якіх, «Эдэм», змяшчаў у сваёй зале дзвесце аматараў кінематографа. У Полацку часта гастралявалі тэатральныя трупы, а ў 1910-м упершыню з поспехам выступіў першы прафесійны беларускі тэатр Ігната Буйніцкага.

У шасці полацкіх кнігарнях, апрача ўсяго іншага, падарожнік мог набыць прысвечаныя гораду над Дзвіной паштоўкі. (Іх за царскім часам выйшла амаль трыста). Неўзабаве на Спасаўскай вуліцы адкрылася першая беларуская кнігарня. Яе загадчыцай была паэтка Канстанцыя Буйло (памятаеце: «Люблю наш край, старонку гэту...»?) Улетку 1916-га ў спадарыні Канстанцыі з'явіліся добрыя памочнікі і сябры – Янка Купала, які больш за год служыў тут у войску, і яго жонка Уладзіслава.

Горад яшчэ жыў сваім няспешным жыццём, але ўжо зусім блізка былі рэвалюцыйныя віхуры, што распачалі новую эпоху.

На гэтым бульвары яшчэ жывы дух пазамінулага стагоддзя



# Слова на развітанне



Наша падарожжа ў полацкую гісторыю завяршылася на пачатку мінулага стагоддзя. Пра падзеі і людзей XX-га – гераічнага і трагічнага, разбуральнага і стваральнага – вам раскажа іншая кніга, якая абяцае стаць не менш цікавай.

Можна па-рознаму ставіцца да прароцтваў астролагаў, але, прызнаемся, што адно з іх нам вельмі даспадобы. Шырока вядомы сучасны «звяздар» Павел Глоба сцвярджае, што адшукаў кнігу прадбачанняў свайго знакамітага папярэдніка палачаніна Васіля Нямчына, напісаную амаль шэсцьсот гадоў таму. Зазірнуўшы са свайго XV стагоддзя ў наш час, сярэднявечны полацкі астролаг убачыў новае ўзвышэнне Полацка і нават ператварэнне яго ў сталічны горад.

Няхай скептыкі паблажліва ўсміхаюцца, але хіба ўжо сёння нельга сказаць, што гэтае прароцтва здзяйсняецца? Полацк з яго Нацыянальным гістарычна-культурным запаведнікам, Сафійскім саборам, Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыром, дзесяткам музеяў, цудоўнай карціннай галерэяй, з яго універсітэтам няўхільна становіцца адной з культурных і духоўных сталіц незалежнай Беларусі.

Зрэшты, у гэтым, наведаўшы найстаражытнейшы горад нашай краіны, вы пераканаецеся самі. Здаецца, не праходзіць і года, каб Полацк не пабагацеў на новы музей або помнік камусьці са сваіх славутых сыноў і дачок. Нядаўна сюды вярнуліся асветнікі Еўфрасіння і Сімяон. У недалёкім часе побач з Сафійскім саборам паўстане ў бронзе на гарачым кані адзін з заснавальнікаў нашай дзяржаўнасці – князь Усяслаў Чарадзей...

А насустрач «бацьку гарадоў беларускіх», каб урэшце ўтварыць з ім адно цэлае, расце зусім юны, але па-свойму таксама прыгожы і непаўторны Наваполацк.

У гарадоў, як і ў людзей, ёсць душы. Нягледзячы на нягоды і ліхалецці, Полацк захаваў у сваёй душы чысціню і высакароднасць. Ён здольны вылечыць ад жыццёвай мітусні і прымусіць падумаць пра вечнае, успомніць, хто мы, адкуль і куды ідзём.

На старажытным полацкім гербе пад чыстым блакітным небам плыве па дзвінскіх хвалях карабель з разгорнутымі ветразямі. Яму наканавана плыць праз незлічоныя стагоддзі.



← «Вартаўнік» адчыненага нядаўна адзінага ў краіне дзіцячага музея. *Аўтар гэтай арыгінальнай скульптуры – Павел Вайніцкі.*

## ХРАНАЛОГІЯ

**V ст.**
На тэрыторыі сучаснага Полацка ўзнікае першае паселішча

**862**
Першыя летапісныя звесткі пра Полацк.

**2-я палова X ст.**
У Полацку ўладарыць Рагвалод. Утварэнне Полацкага княства.

**Каля 980**
«Крывавае вяселле» Уладзіміра з Рагнедай.

**Каля 988**
Вяртанне Рагнеды з князевічам Ізяславам на радзіму.

**992**
Заснаванне Полацкай епархіі.

**1003–1044**
Княжанне Брачыслава Ізяславіча. Аднаўленне незалежнасці Полацкага княства.

**1029**
Нарадзіўся князь Усяслаў Брачыславіч Чарадзей.

**1044–1101**
Княжанне Усяслава Чарадзея.

**1044–1066**
Будаўніцтва Сафійскага сабора.

**Каля 1104**
Нарадзілася Еўфрасіння Полацкая.

**1152–1161**
Дойлід Іаан і арцель полацкіх майстроў узводзяць царкву Спаса (Спаса-Еўфрасіннеўскую).

**1161**
Ювелір Лазар Богша ствараe Крыж Еўфрасінні Полацкай.

**1167**
Паломніцтва Еўфрасінні ў Святую Зямлю і завяршэнне зямнога шляху асветніцы.

**1186–1216**
Княжанне вялікага князя полацкага Валодшы і яго барацьба з крыжакамі.

**1240, 1242**
Удзел полацкай дружыны ў разгроме шведаў на Няве і нямецкіх рыцараў на Чудскім возеры.

**1307**
Полацкая зямля ўваходзіць у Вялікае Княства Літоўскае

**1380**
Князь Андрэй Полацкі з палком палачан удзельнічае ў Кулікоўскай бітве.

**15 ліпеня 1410**
Полацкая харугва бярэ ўдзел у Грунвальдскай бітве.

**7 кастрычніка 1498**
Полацк атрымлівае магдэбургскае права.

**Каля 1490 – пасля 1551**
Жыццё і дзейнасць Францішка Скарыны.

**1504**
Утварэнне Полацкага ваяводства.

**1563**
Полацк захоплены войскам Івана Грознага.

**1579**
Войскі Сцяпана Батуры (Стэфана Баторыя) вызваляюць горад ад маскавітаў.

**1581**
Адкрыццё Полацкага езуіцкага калегіума.

**1585**
У Полацку створаны тэатр.

**1629–1680**
Жыццё і дзейнасць Сімяона Полацкага.

**1654–1667**
Горад заняты царскім войскам. Вайна паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай, у гады якой Беларусь страціла кожнага другога жыхара.

**1738–1750**
Адбудова Сафійскага сабора, узарванага салдатамі Пятра I.

**1772**
Першы падзел Рэчы Паспалітай. Правабярэжная частка Полацка і Полацкага ваяводства захопленая Расійскай імперыяй.

**1780**
Полацк робіцца сталіцай забароненага рымскім папам ордэна езуітаў.

**1787**
У Полацкім калегіуме адчынены музей і карцінная галерэя.

**1793**
Другі падзел Рэчы Паспалітай. Расія захапіла левабярэжную частку Полацка і Полацкага ваяводства.

**1794(?)–1851**
Жыццё і дзейнасць пісьменніка Яна Баршчэўскага.

**1810–1885**
Жыццё і дзейнасць мастака Івана Хруцкага.

**10 чэрвеня 1812**
Адкрыццё Полацкай акадэміі, якая мела правы універсітэта.

**Ліпень 1812**
Полацк занялі войскі Напалеона.

**7–8 кастрычніка 1812**
Штурм і ўзяцце горада расійскімі войскамі.

**1835**
Адкрыццё Полацкага кадэцкага корпуса.

**1839**
Царкоўны сабор у Полацку прымае акт аб ліквідацыі царкоўнай уніі.

**1866**
Праз горад прайшла Рыга-Арлоўская чыгунка.

**1906**
У Полацку адчынены першы кінатэатр.

**1910**
Перанясенне ў Полацк мошчаў святой Еўфрасінні.

**1912**
Адкрыццё гарадской публічнай бібліятэкі.

**1913**
Дала ток першая полацкая электрастанцыя.

**1915**
У горадзе з’явіўся першы аўтамабіль.



Скульптура Паўла Вайніцкага «Прысвячэнне роднаму слову». *Музей беларускага кнігадрукавання*

# Што яшчэ пачытаць пра гісторыю Полацка


**Беларускія летапісы і хронікі.** Мн., 1997.

Арлоў Уладзімір. **Еўфрасіння Полацкая.** Мн., 2000.

Арлоў Уладзімір. **Таямніцы полацкай гісторыі.** Мн., 2002.

Ермаловіч Мікола. **Старажытная Беларусь:** полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990.

**Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны.** Гісторыя Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай. Мн., 1998.

Тарасаў С. **Чарадзей сёмага веку Траяна:** Усяслаў Полацкі. Мн., 1991.

Тарасаў С. **Полацк IX–XVII стст.** Гісторыя і тапаграфія. Мн., 1998.

Чаропка Вітаўт. **Імя ў летапісе.** Мн., 1994.

Штыхаў Г. В. **Крывічы.** Мн., 1992.

Штыхов Г. В. **Древний Полоцк.** Мн., 1975.

# Гістарычныя і архітэктурныя славутасці Полацка

1. Сафійскі сабор
2. «Барысаў камень»
3. Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр
4. «Вал Івана Грознага»
5. Музей традыцыйнага ткацтва Паазер'я
6. Помнік Еўфрасінні Полацкай
7. Езуіцкі калегіум
8. Помнік крывічам – заснавальнікам горада
9. Мастацкая галерэя
10. Былая лютэранская кірха. Краязнаўчы музей
11. Парадны пляц (сучасная плошча Свабоды)
12. Гарвыканкам
13. Цэнтр нацыянальных культур і рамёстваў
14. Музей беларускага кнігадрукавання
15. Богаяўленскі сабор
16. «Домік Пятра I». Музей «Прагулка па Ніжнепакроўскай»
17. Помнік Сімяону Полацкаму




*Сучасны Полацк – гэта горад музеяў, якіх тут больш за дзесяць. Плошча ахоўнай зоны Полацкага нацыянальнага гістарычна-культурнага запаведніка складае 60 га. У яго фондах захоўваецца каля 80 тысяч музейных адзінак.*

18. Кінатэатр «Радзіма»
19. Помнік 23-м воінам-гвардзейцам
20. Дзіцячы музей
21. Помнік Францішку Скарыну
22. Гасцінічны комплекс «Славянскі»
23. Прыродна-экалагічны музей

## Ансамбль Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра

1. Крыжаўзвіжанскі сабор
2. Спасаўская (Спаса-Еўфрасіннеўская) царква
3. Трапезная (цёплая) царква
4. Брама-званіца з будынкамі келляў




Аўтар карты Рубен Атаян



Матэрыяльны сімвал беларускай літары «Ў» некаторыя паспяшаліся назваць помнікам.
*Аўтар – Ігар Куржалёў*



Аўтар праектаў рэстаўрацыі Сафійскага і Богаяўленскага сабораў, архітэктар Валерый Слюнчанка (1945–1992)



Дуб Вацлава Ластоўскага

Музей беларускага кнігадрукавання знаходзіцца ў будынку колішняга Богаяўленчага манастыра



Пажарная вежа. 1927 г.




Гасцініца «Дзвіна» глядзіць сваімі вокнамі на плошчу імя Францыска Скарыны





Стараабрадскі храм Успення святой Багародзіцы



Хіба не арыгінальная думка – размясціць у старой воданапорнай вежы экспазіцыю прыродна-экалагічнага музея?




У кавярні «Манастырскі пагрnative» любяць бываць і гараджане, і турысты






Кавярня «Братчына» прываблівае не толькі добрай кухняй, але і арыгінальным інтэр’ерам




У Полацку з гісторыяй можна сустрэцца не толькі ў музеі, але нават у звычайнай краме



Курган Славы насыпалі ўсім горадам

Грэка-каталіцкая царква Святой Параскевы







У гэтым адметным старасвецкім будынку цяпер Полацкая мастацкая школа



У полацкім прыцемку заўсёды ёсць нешта таямнічае



Дырэктар Полацкага нацыянальнага гістарычна-культурнага запаведніка Мікалай Ільніцкі







Мэр Полацка Уладзімір Тачыла на традыцыйным Скарынаўскім сваце кнігі



Адзін з полацкіх фасадаў

Калісьці гарадской уладай быў магістрат, цяпер кіруе Полацкі выканаўчы камітэт



Дом у стылі мадэрн. Пачатак XX ст.

Дарога да храма





## ГАСЦІНІЦЫ

Гасцінічны комплекс
**«Славянскі»**
знаходзіцца ў цэнтры горада
*пр. К. Маркса, 13*
*тэл. (0214) 44-22-35.*
90 месцаў, 1–2-месныя нумары, паўлюкс і люкс. Пры гасцініцы працуе рэстаран, абед можна замовіць у нумар, стаянка аўтамабіляў, міжнародны тэлефон і сауна.



## ХАРЧАВАННЕ

***Рэстараны***

Рэстаран **«Славянскі»**
*(пр. К. Маркса, 13,*
*тел. (0214) 46-07-97)*

Рэстаран **«Быліна»**
*вул. П. Броўкі, 47*
*тэл. (0214) 43-46-78*

Рэстаран станцыі
**«Полацк»**
*вул. Кастрычніцкая, 48*
*тэл. (0214) 45-68-39*

***Бары, кавярні***

Кавярня **«Братчына»**
*вул. Леніна, 22,*
*тэл. (0214) 49-07-69*

Кавярня
**«Адпачынак»**
*вул. Кастрычніцкая, 61*
*тэл. (0214) 44-43-00*

Кавярня
**«Монастырский погребок»**
*вул. Энгельса, 3*
*тэл. (0214) 44-21-79*

Кавярня **«Экспрэс»**
*Прывакзальная плошча*
*тэл. (0214) 45-62-93*

Кавярня **«Гурман»**
*вул. Леніна,*
*парк культуры*
*тэл. (0214) 49-06-09*

Кавярня **«Дыяніс»**
*вул. Кастрычніцкая, 25*
*тэл. (0214) 44-31-48*

Кавярня **«Хвілінка»**
*вул. Карла Маркса, 11*
*тэл. (0214) 44-24-63*

Кавярня **«Торты»**
*вул. Карла Маркса, 42*
*тэл. (0214) 46-13-07*

Кавярня **«Спатканне»**
*вул. Камуністычная, 9*
*тэл. (0214) 44-30-43*

Кавярня **«Дамініка»**
*вул. Карла Маркса, 11*
*тэл. (0214) 44-64-86*

Кавярня **«Спаскае»**
*вул. Камарова, 32*
*тэл. (0214) 44-16-06*

Кавярня **«Бульбяная»**
*вул. Кастрычніцкая, 42*
*тэл. (0214) 44-88-69*

**Сталовыя**

Сталовая **№4**
*вул. Еўфрасінні Полацкай, 77*
*тэл. (0214) 44-28-87*

Сталовая **«Чабор»**
*вул. Камуністычная, 10*
*тэл. (0214) 44-20-35*

**«Пельменная»**
*вул. Скарыны, 34*
*тэл. (0214) 44-31-64*





## КУЛЬТУРНЫЯ УСТАНОВЫ

**Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік**
*вул. Леніна, 22*
У запаведнік уваходзіць 11 музеяў.

**Сафійскі сабор – Верхні замак**
*(вул. Замкавая, 1*
*тэл. (0214) 44-53-40*

**Музей беларускага кнігадрукавання**
*вул. Леніна, 22*
*тэл. (0214) 44-57-25*

**Музей-бібліятэка Сімяона Полацкага**
*вул. Леніна, 22*
*тэл. (0214) 44-63-39*



**Мастацкая галерэя,**
будынак былога езуіцкага калегіума і былога кадэцкага корпуса
*вул. К. Маркса, 2а*
*тэл. (0214) 44-36-32*

**Экспазіцыя ў доме Пятра І «Прагулка па Ніжнепакроўскай»**
*вул. Леніна, 33*
*тэл. (0214) 44-28-55*

**Краязнаўчы музей,**
будынак кірхі
*вул. Леніна, 11*
*тэл. (0214) 44-27-15*

**Музей ткацтва Паазер'я**
*вул. Вайкова, 1*
*тэл. (0214) 44-30-41*

**Музей Тусналобавай-Марчанка**
*вул. Гвардзейцаў, 23*
*тэл. (0214) 43-94-69*

**Музей баявой славы**
*Курган Бессмяротнасці,*
*тэл. (0214) 43-44-21*

**Дзіцячы музей**
*вул. Леніна, 46*
*тэл. (0214) 44-45-58*

**Палац культуры ТАА «Полацк – Шкловалакно»**
*вул. Юбілейная, 7*
*тэл. (0214) 44-34-40*

**Узорны народны тэатр**
*вул. Гогаля, 15*
*тэл. (0214) 44-20-75*

**Філіял абласнога тэатра імя Якуба Коласа**
*вул. Гогаля, 15*
*тэл. (0214) 44-23-62*

**Цэнтр нацыянальных культур і рамёстваў**
*вул. Леніна, 27*
*тэл. (0214) 46-17-78*






## НАЙБУЙНЕЙШЫЯ КРАМЫ

**Дом гандлю**
*вул. Гогаля, 18*
*тэл. (0214) 44-24-28*

Харчовая крама **«Цэнтральны»**
*вул. Скарыны, 22*
*тэл. (0214) 44-41-23*

Кнігарня **«Светач»**
*вул. Камуністычная, 21*
*тэл. (0214) 44-29-22,*
*(0214) 44-53-33*

Крама **«Сувеніры»**
*вул. Пушкіна, 1*
*тэл. (0214) 46-00-15*





## ТУРЫЗМ

**Полацкае бюро падарожжаў і экскурсій**
*вул. Пушкіна, 21/31*
*тэл. (0214) 49-17-45,*
*(0214) 49-03-44*
У бюро можна замовіць экскурсійнае абслугоўванне, пражыванне, харчаванне і візавую падтрымку. Экскурсіі праводзяцца на беларускай, рускай, англійскай, нямецкай і французскай мовах.





## Змест



У іх руках заўтрашні дзень Полацка





Колькі гадоў нашаму найстаражытнейшаму гораду?

Чаму ў Полацку знаходзяць столькі скарбаў?

За што князя Усяслава Брачыславіча празвалі Чарадзеем?

Куды знікла бібліятэка Сафійскага сабора?

Як трапіць у полацкія падземныя лабірынты?

Чаму Полацк стаў сталіцай ордэна езуітаў?

Хто такі «Чорны афіцэр»?

Дзе шукаць Крыж Еўфрасінні Полацкай?

Кніга,

якую Вы трымаеце ў руках, адкажа на гэтыя

і мноства іншых пытанняў.

ISBN 985-6700-38-8

